# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 46 (2344) 18 лістапада 1993 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 10 рублёў.


ХТО АБАРОНІЦЬ ЗАМЕЖНАГА СУАЙЧЫННІКА?

## ЧУЖЫЯ СЯРОД СВАІХ

**Пытанне аб магчымасці вяртання беларусаў на сваю Бацькаўшчыну ўжо неаднаразова ўздымалася нашай газетай. Сёння мы зноў мусім вярнуцца да гэтай праблемы, якая з пагаршэннем эканамічнага і палітычнага становішча ў былых краінах СНД толькі ўскладняецца. У Прыбалтыцы і Закаўказзі, Малдове і Сярэдняй Азіі існуе сацыяльна-эканамічная дыскрымінацыя рускамоўнага насельніцтва, і Кыргызстан не выключэнне. Некалькі нашых суайчыннікаў прыехалі ў кастрычніку ў Мінск з Бішкека, каб знайсці падтрымку і паратунак на сваёй этнічнай Радзіме. Ігар Смятанка, старшыня беларускай суполкі "Світанак" у Кыргызстане, завітаў да нас у рэдакцыю, каб расказаць аб праблемах і падзяліцца думкамі.**

### КАЛІ СТВАРАЮЦЦА НОВЫЯ ДЗЯРЖАВЫ, ЛЮДЗІ ПАВІННЫ МЕЦЬ ПРАВА ВЫБАРУ, ДЗЕ ІМ ЖЫЦЬ

Пытанне нашай рубрыкі ператварылася ў рытарычнае і, як снежны камяк, абрастае новымі праблемамі. Даволі часу прайшло з таго моманту, як распалася вялікая імперская дзяржава Савецкі Саюз, а з ім спыніла сваё існаванне "новая историческая общность людей — советский народ". Яшчэ адна "вавілонская вежа" засталася надабудаванай, а яе будаўнікі, як і раней, пачалі размаўляць на розных мовах і належаць да пэўнай нацыі. Здаецца лагічным, каб пасля падпісання вядомага пагаднення ў Белавежскай пушчы было падпісана яшчэ адно — аб вяртанні былых савецкіх грамадзян на жыхарства туды, куды яны хочуць. Калі ствараюцца новыя дзяржавы, людзі павінны мець права выбару, дзе ім жыць і якое грамадзянства мець. А пакуль што сувязі парушаны, абвастраецца сацыяльнае напружанне, пашыраецца і паглыбляецца эканамічнае, палітычнае, канфесійнае расслаенне народаў.

Вядомая ісціна, што кожная дзяржава павінна абараняць і падтрымліваць інтарэсы ўсіх сваіх суайчыннікаў, у якой бы краіне яны ні жылі. Міжнародная супольнасць мае ў гэтым накірунку пэўны вопыт, які шырока выкарыстоўваецца ва ўсім цывілізаваным свеце. На яго падставе распрацаваны праграмы па вяртанню сваіх суайчыннікаў ў Венгрыі, Польшчы, Ізраілі, нават у некаторых былых рэспубліках СССР.

У Беларусі да гэтага часу па згаданай праблеме не прынята ніводнага закона, у той адзінай праграме "Беларусы ў свеце", што распрацавана на ўрадавым узроўні, па гэтым пытанні нічога канкрэтнага няма.

Менавіта таму беларуская дэлегацыя з Кыргызстана паставіла пытанне аб вяртанні беларусаў на Радзіму на парадак дня Першага з"езда беларусаў свету. У падтрымку вырашэння праблемы выступілі Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч і міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Дэлегацыі было прапанавана паехаць у Гродна для вырашэння гэтага канкрэтнага пытання на месцы згодна з прынятым Законам аб мясцовым самакіраванні.

### БЕЛАРУСЫ Ў КЫРГЫЗСТАНЕ

Зараз на тэрыторыі Кыргызстана пражывае каля 9 тысяч выхадцаў з Беларусі. Прыязджалі яны туды, як і ў іншыя рэспублікі, пераважна як спецыялісты для будаўніцтва прадпрыемстваў, дзе потым і заставаліся працаваць. На жаль, карэннае насельніцтва Кыргызстана сёння мала хвалюе, колькі намаганняў, ведаў і поту ўклалі некалькі пакаленняў беларусаў у стварэнне матэрыяльных і духоўных здабыткаў іх рэспублікі. Дарэчы, ніхто там беларусаў у асобны асяродак не выдзяляе. Побач з украінцамі і рускімі яны мусяць цяпер трымаць адказ за імперскую палітыку былых кіраўнікоў, за непавагу і дыскрымінацыю мясцовых жыхароў, за доўгія гады савецкай улады. Больш таго, усё гэта яны вымушаны зведваць на сваёй шкуры. Нягледзячы на тое, што на ўрадавым узроўні, здаецца, у Кыргызстане дыскрымінацыі няма і прэзідэнт Акаеў час ад часу выступае з заклікамі да рускамоўных спецыялістаў не ад"язджаць,

(Заканчэнне на 3-й стар).




Артур ВОЛЬСКІ

## КАЛІ ГУЧЫЦЬ "МАГУТНЫ БОЖА"

*Памяці Міколы РАВЕНСКАГА*

**Калі гучыць
"Магутны Божа",
гатовы ўпасці
на калені.
Бог — толькі Бог! — нам
дапаможа
знайсці шляхі да
вызвалення.**

**Да вызвалення душ
і думак
ад ненавіснага прыгнёту,
каб кожны мог з грахамі
клумак
шпурнуць у д'яблава
балота.**

**Каб у духоўнай завірусе,
ў Хрысце
знайшоўшы ўратаванне,
прынеслі людзі Беларусі
за ўсе правіны пакаянне.**

**І слаўна пойдзе ўсё
ды спраўна,
І заквітнее Край наш гожа,
і загучыць як
Гімн Дзяржаўны
спеў нашых душ —
"Магутны Божа".**

*2 лістапада 1993 г.*

**НА ЗДЫМКУ:** мемарыяльная дошка на доме па вуліцы Луначарскага ў Чэрвені, дзе з 1941 да 1944 года жыў кампазітар Мікола Равенскі.

Фота Віктара СТАВЕРА.

(Артыкул "Вера і музыка" пра падзею ў Чэрвені змешчаны на 7-й стар.).

## ТРЫНАЦЦАТАЯ, ЗВЫЧАЙНАЯ...

**13-я сесія Вярхоўнага Савета Беларусі, што адкрылася 9 лістапада, не нагадвала, насуперак чаканням палітыкаў і грамадскасці, ні бой гладыятараў, ні карыду. У зале пасяджэнняў пасля першых раундаў стомлена аціхлі і цэнтрысты, і апазіцыянеры, і нават нязломныя ветэраны, што ўсцяж патрабуюць вярнуць дзяржаве старыя савецкія сімвалы. Сесія пайшла па такой каляіне, якая не абяцае нічога ўсцешнага.**

**А на плошчы Незалежнасці, абкружанай па загаду ўрада шчыльнымі радамі міліцыі і абвешчанай гарадскім Саветам сталіцы забароненай зонай для дэманстрантаў, пікетчыкаў і ўсялякіх іншадумцаў, сабраліся-такі некалькі соцень люду. Не падзейнічалі заклікі апазіцыі БНФ валіць усім на плошчу і стаяць да канца, да адстаўкі ўрада Кебіча. Перад Домам урада таксама панавала стомленасць.**

**Стомленасць і апатыя зняверанага народа.**

Фота Віктара СТАВЕРА.





# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЮБІЛЕІ*



**У Мінску ў Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь прайшоў вечар, прысвечаны 40-годдзю творчай дзейнасці народнага артыста рэспублікі Віктара Вуячыча. Павіншаваць юбіляра прыехалі знакамітыя артысты і кампазітары з краін блізкага замежжа.**

**НА ЗДЫМКУ: у час канцэрта.**

*ПРАБЛЕМА БЕЖАНСТВА*

## ПРАПАНОЎВАЮЦЬ ДАПАМОГУ

**Рэгіянальны прадстаўнік упраўлення вярхоўнага камісара па справах бежанцаў спадар Аманацегі і прадстаўнік ААН у Рэспубліцы Беларусь спадар Кахане наведалі Вярхоўны Савет і былі прыняты па іх просьбе ў парламенцкай Камісіі па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД і ў Камісіі па пытаннях працы, цэн, занятасці, сацыяльнай абароненасці насельніцтва. Галоўнай тэмай размовы стала знаёмства са становішчам бежанцаў у рэспубліцы і абмен думкамі па шэрагу пытанняў, звязаных з гэтай праблемай.**

**Камісіям Вярхоўнага Савета прапанавана прававая дапамога пры распрацоўцы заканадаўства, якое тычыцца становішча бежанцаў у рэспубліцы.**

*РЭЛІГІЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## ТРЭЦІ ХРАМ

**Спрадвеку ў Калінкавічах 4 лістапада адбываўся фэст, прысвечаны святой іконе Казанскай Божай Маці — заступніцы палешукоў. Менавіта да гэтай даты было прымеркавана адкрыццё ў горадзе новай, трэцяй па ліку, праваслаўнай царквы.**

**Новы храм вырас у цэнтры Калінкавічаў. Сёння гэта адзін з самых прыгожых будынкаў горада.**

**На асвячэнне храма сабраліся тысячы жыхароў горада і раёна, прыехалі святары з усіх прыходаў Гомельшчыны, старшыні выканкомаў, гарадской і раённай адміністрацыі, іншыя афіцыйныя асобы.**

**Адбылася святочная літургія, яе вялі епіскап Гомельскі Арыстарх, Мазырскі і Тураўскі ўладыка Пётр.**

*ЖАНЧЫНЫ І ПРАЦА*

## КРЫХУ АДСТАЁМ

**Супрацоўнікамі Статыстычнага камітэта СНД праведзены аналіз занятасці жанчын на прадпрыемствах са шкоднымі ўмовамі працы ў дзяржавах Садружнасці за мінулы год. У Беларусі ў прамысловасці занята 125,8 тысячы жанчын, ці 20,4 працэнта ад агульнай іх колькасці; у будаўніцтве — 2,5 (ці 4,1 працэнта) і на транспарце — 2,1 (ці 3,7 працэнта). Калі пакласці ў аснову працэнтны паказчык, то наша рэспубліка крыху "адстае" ад іншых дзяржаў СНД. Толькі на транспарце — 5-е месца, у будаўніцтве — 4-е, а ў прамысловасці — 2-е.**

**Як адзначаюць спецыялісты, работа ў шкоднай вытворчасці адбіваецца ў першую чаргу на стане здароўя жанчын, уключаючы і зніжэнне нараджальнасці.**

*НАШЫ "ДАСЯГНЕННІ"*

## ХТО ДАВЁЎ?

**За першае паўгоддзе 1993 года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года нацыянальны даход знізіўся на 14 працэнтаў, цэны ўзраслі ў 9—14 разоў, вытворчасць мяса і малака скарацілася адпаведна на 14 працэнтаў і 16 працэнтаў, аб'ём вытворчасці ў прамысловасці знізіўся на 16,3 працэнта, колькасць стратных прадпрыемстваў павялічылася з 379 да 547.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

РАБОТНІКІ аграрна-прамысловага комплексу Гродзеншчыны прыгразілі ўраду: калі не будуць прыняты неадкладныя меры, з наступнага месяца спыняцца пастаўкі дзяржаве сельскагаспадарчай прадукцыі. Сельская гаспадарка вобласці ў глыбокім эканамічным і фінансавым крызісе.

ЭКСПЕРЫМЕНТАЛЬНЫ ўзор беларускага камбайна для ўборкі цукровых буракоў выраблены на "Гомсельмашы". Гэта першая машына, створаная нашымі канструктарамі. Вытворчае аб'яднанне ў Гомелі мае намер выпускаць і камбайны для ўборкі кармавых буракоў.

ПА РАСПАРАДЖЭННЮ гарадскога Савета сталіцы з новага года мінчане зноў будуць атрымліваць нарміраваныя харчовыя тавары толькі па спецыяльных картках. Акрамя цукру, масла, лікёра-гарэлачных вырабаў, па картках будуць прадавацца мыла, пральныя парашкі.

У ДАХОД дзяржаўнага бюджэту пайшоў 1 мільярд 398 мільёнаў рублёў з рахунку Мінскага аўтазавода. Так пакарана "бурная" гандлярская дзейнасць адміністрацыі прадпрыемства, якая завышала на мільёны рублеў кошт выпускаемых заводам аўтамашын.

У СУВЯЗІ з ростам злачыннасці, учыненай грамадзянамі іншых краін СНД, Мінгарвыканком увёў новыя правілы рэгістрацыі. Цяпер усе, хто прыязджае ў сталіцу з былых рэспублік СССР ці то на лячэнне, адпачынак, у госці ці па любой іншай справе, павінны рэгістравацца на месцы іх фактычнага знаходжання. Госці павінны плаціць 10 працэнтаў мінімальнай зарплаты за 1 суткі знаходжання ў Мінску.

БЕЛАРУСКІЯ грэка-католікі адзначылі 370-я ўгодкі з дня забойства архібіскупа Полацкага Іасафата Кунцэвіча, якога уніяты лічаць святым мучанікам. З гэтай нагоды адбыліся набажэнствы ў Мінску, Полацку, Гродне, Гомелі. У Вільні, у Свята-Духавым манастыры, удзел у жалобнай імшы прыняў іерарх Украінскай грэка-каталіцкай царквы.

*МІЛАСЭРНАСЦЬ*

**У Мінск (на здымку) прыбыла другая партыя гуманітарнага грузу для атрада сацыяльнай дапамогі пацярпеўшым ад аварый, катастроф і стыхійных бедстваў. Гэты атрад створаны ў таварыстве Чырвонага Крыжа Беларусі пры фінансавай падтрымцы Германскага Чырвонага Крыжа. У дарунак ад яго атрад атрымаў сёлета рэанімацыйны аўтамабіль фірмы "Мерседэс", аснашчаны ўсім неабходным для аказання экстраннай медыцынскай дапамогі. Кошт дастаўленых раней сродкаў сувязі і аўтамабіля складае 240 тысяч нямецкіх марак.**




*НАТАТКІ З НАГОДЫ*

## ХТО ІДЗЕ ПА БАЛЬШАКУ?

Шчыра веру, што тым, хто добра памятае сваё жыццё 15—20 гадоў назад, сённяшняе можа здацца плёнам фантазіі якога-небудзь пісьменніка. Звычайна ў падобных творах падзеі развіваюцца па двух сцэнарыях: альбо ўсеагульны дабрабыт і росквіт чалавецтва, альбо... Так, нешта накшталт апакаліпсіса. На жаль, даволі многія сёння аддалі б перавагу першаму варыянту.

Здаецца, з такімі пачуццямі ішлі сёлета ў калоне ўдзельнікі святкавання чарговай гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года па сталічным праспекце імя Францыска Скарыны. У кастрычніцкую раніцу 7 лістапада можна было яшчэ раз пераканацца, што ўсё намаляваць толькі чорнай альбо толькі белай фарбай, а тым больш чырвона-карычневай немагчыма. Ну якім колерам вы размалюеце ветэрана Вялікай Айчыннай з кіем, у форменнай ваеннай лётнай фуражцы, без паліто, у адным касцюме, на лацкане пінжака якога не менш, як паўдзесятка баявых ордэнаў. Было вельмі холадна, але стары ішоў рашуча, не зважаючы на здзіўленыя позіркі прахожых, прыціскаючы да сябе два чырвоныя гваздзікі, якія бязбожна шкуматаў вецер. Ён ішоў да помніка Перамогі, да Вечнага агню, да сваёй памяці.

А вось яшчэ адна сустрэча той жа раніцай. Жанчына ўзросту маіх бацькоў спяшалася на дэманстрацыю. "А як жа інакш, — казала яна. — Мы ж тады жылі зусім па-іншаму. Я шэсцьдзесят пяць разоў здавала кроў як донар. Трыццаць літраў маёй крыві выратавалі чужых мне людзей. Вось тут мой раён, — яна паказала рукой у бок сённяшняй плошчы Незалежнасці, колішняй Леніна. — Мы па цаглінцы, па каменьчыку ўсё разгрaбалі пасля вайны. А што сённяшняя моладзь? Дзе яны? Чым заняты? Усё нешта прадаюць?"

Наогул у той халодны дзень дэманстрацыя была больш людная, чым чакалі. Луналі чырвоныя сцягі, плылі над галовамі плакаты, праўда, часам здавалася, быццам неслі тое, што проста ўдалося знайсці. Недзе на пачатку калоны грукаў невялікі духавы аркестр. Музыка бадзёрыла. Гучалі "А я иду, шагаю по Москве", "Три танкиста, три веселых друга" і г.д. У паўзах паміж музычнымі нумарамі выгуквалі "Долой Ельцина" і проста "Долой! Долой! Долой!" Узрост дэманстрантаў у асноўным быў пенсійны і перадпенсійны, ішлі людзі, якім, кажучы мовай цяперашніх маладых, ужо нічога не свеціць. Уражваў агульны тон калоны — цёмна-шэры. Шэрыя, айчыннай вытворчасці драпавыя паліто, шэрыя капелюшы, шэрыя курткі. Ішлі нашы людзі, нашы бацькі, нашы дзядулі і бабулі. У рэпрадуктар да іх пастаянна звяртаўся нейкі завадзіла, заклікаў адстойваць тое, што яны страцілі, што ў іх адабралі "дэмакраты". А што, дарэчы, у іх адабралі? У кастрычніку семнаццатага сапраўды было ў каго адбіраць і што адбіраць. Ну, а зараз? На што можна пакваліцца? Што страцілі? Мізэрныя дэкрэтныя водпускі, калі маці са слязьмі вымушана была несці гадавалае дзіця ў яслі (а раней нават трохмесячнае)? Парусінавыя туфлікі і жакецікі на рыбіным футры? А пазней? "Мокрую" каўбасу? Адпачынак 14 дзён? Сто рублёў зарплаты? Кухню 5-6 квадратных метраў, і то, калі пашанцуе? Дык што ж яны згубілі?! Нешта ж згубілі, і гэта несумненна.

Мне здаецца, надзею. Надзею, што ўсё калі-небудзь уладзіцца. Што дзеці перастануць хварэць, бо перарастуць, што кватэру няхай праз 20 гадоў, але дачакаешся, што крыху назбіраеш грошай, падцïснешся і купіш касцюм або жонцы зімовыя боты, а калі не піць і не курыць, то к старасці тысячы 3-4 набяжыць, і ўжо тады будзеш сапраўды кум каралю і сват міністру. Нарэшце, жыла вечная надзея на тое, што ўжо сынам і дочкам будзе лягчэй.

Не шмат? Сціплыя мары? Але ж хоць нешта было. А зараз? Людзі адчуваюць сябе кінутымі, і побач з многімі засталася толькі безнадзейнасць. І вось гэтая страта надзеі, мне здаецца, поўнасцю ляжыць на сумленні сённяшніх улад. На жаль, яны самі так не лічаць. У іх вечна нехта іншы вінаваты: абставіны, Расія, спекулянты, капіталісты, якія грошай не даюць... А што ж самі? Чым заняты клапатлівыя народныя дэпутаты? З-за чаго не спіць па начах спадар, а, можа, таварыш Саўмін? Кожны раз з адкрыццём чарговай сесіі Вярхоўнага Савета аптымісты чакаюць перамен да лепшага. З імі спрачаюцца песімісты, якія ўрэшце з зайздросным пастаянствам і перамагаюць. Будзе вельмі шкада, калі нічога не зменіцца і пасля работы толькі што адкрытай, трынаццатай сесіі.

Напярэдадні сёмага лістапада ў маёй паштовай скрынцы аказаліся адначасова дзве лістоўкі. Калі казаць папросту, адна бэнэфаўская, другая камуністычная. Абедзве заклікалі, заклікалі, заклікалі... Часам да аднаго і таго ж. Напрыклад, на ўсеагульную барацьбу з "прыхватызацыяй". Толькі ў розны час і пад рознымі сцягамі. І тыя і другія прасілі: верце нам, толькі мы "правыя". Дарэчы, "кастрычніцкі" мітынг у парку Горкага ў Мінску так і закончыўся заклікам: "Наше дело правое!" І тут на памяць прыходзіць не вельмі арыгінальны каламбур: правыя — левыя, хто цяпер справа, хто злева? Камуністы? БНФ? Часам здаецца, што сёння і тыя, і іншыя трапілі некуды на ўзбочыну. І не важна, з якога боку. Тут як стаць і як паглядзець, так і ўбачыш. Пытанне ў іншым. Хто ж ідзе па бальшаку?

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ЗАСЛАЎЕ — ГОРАД МІРУ



Заслаўе-горад міра Шры Чынмоя Zaslavl is the city
Наш горад стаў яшчэ адным moy. Our city has bec
манументам Міра Шры Чынмоя у monument of peac
дадатак да шасцісот ужо існуючых added to the
на нашай планеце. Заснаваны у імя existing on our
адзінства і добрай волі ўсіх народаў in the name of
і народаў, ён з'яўляецца сімвалам will of all peo
бескарыслівага служэння чалавецтву it is a simbol
міжнароднага пасла міра manrina of intern
Шры Чынмоя. ador of peace Sr
"Таксама як незлічоныя кроплі акіяна ..as the countless
міра існуюць побач так усе чалаве- less ocean peac
чыя істоты будуць жыць адзін з by side. Even so
адным у міры, адзінстве і дасканалай will someday
ласці" in a perfect onen
Шры Чынмой 5.X.93



5 лістапада ў Заслаўі адбылася цырымонія надання яму статуса сталіцы міру Шры Чынмоя. Адпаведная таблічка з надпісамі на беларускай, рускай і англійскай мовах з'явілася ў цэнтры города. З гэтай нагоды ў Беларусь прыехала з ЗША адна з вучаніц Шры Чынмоя Стэла Шкрэблін. Яна выступіла перад гараджанамі, прачытала дзве лекцыі ў мясцовай школе аб духоўным развіцці чалавека, пазнаёміла з кнігамі і іншымі матэрыяламі, якія расказваюць аб вучэнні Шры Чынмоя.

НА ЗДЫМКАХ: Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі. Помнік архітэктуры XYI-XYII стагоддзяў; гэтая памятная дошка будзе ўстаноўлена ля будынка гарвыканкома; жыхары Заслаўя сустракаюць доктара Стэлу ШКРЭБЛІН.

Фота Я. КАЗЮЛІ
і з фотатэкі БЕЛІНФАРМа.

## ЗНОЙДЗЕНА БРАЦКАЯ МАГІЛА

Вызваленне Жлобіншчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў было доўгім і крывапралітным. Баі на тэрыторыі раёна працягваліся з канца 1943 да канца чэрвеня 1944 года. Свае галовы тут склалі больш дзесяці тысяч савецкіх салдат. Амаль уся Жлобіншчына ўсеяна брацкімі магіламі. Здавалася, усе яны, гэтыя пахаванні, за прайшоўшыя пяцьдзесят гадоў выяўлены і ўзяты на ўлік. Але час зноў і зноў уносіць свае карэктывы.

У адзін з кастрычніцкіх дзён бягучага года паблізу вёскі Дуброва Кароткавіцкага сельсавета дарожныя будаўнікі ў час работы выявілі вайсковае пахаванне, па меншай меры, шаснаццаці чалавек. На жаль, ніякіх дакументаў, якія б засведчылі тую ці іншую асобу з ліку загінуўшых, не захавалася. На гэтым месцы былі знойдзены і абясшкоджаны сапёрамі гранаты, міна, іншыя боепрыпасы.

— Выяўленне брацкай магілы ў гэтай зоне Жлобінскага раёна, — гаворыць адказны работнік мясцовага гаррайваенкамата маёр А. Кацёлкін, — стала для нас у нейкай ступені нечаканасцю. Тут будуць працягнуты пошукавыя работы. Што тычыцца ўжо знойдзеных астанкаў нашых салдат, дык яны будуць перапахаваны ва ўрачыстай абстаноўцы.

**Мікалай ШУКАНАЎ.**

### ХТО АБАРОНІЦЬ ЗАМЕЖНАГА СУАЙЧЫННІКА?

# ЧУЖЫЯ СЯРОД СВАІХ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

а заставацца, сацыяльна-эканамічная дыскрымінацыя ўсё ж такі мае месца, адчуваецца цкаванне нашых людзей. Яны не могуць займаць кіруючыя пасады, павінны звальняцца або мяняць сваю працу на менш прэстыжную. Цікава, што міністр адукацыі Кыргызстана страціў пасаду толькі з-за таго, што быў уведзены камп'ютэрны прыём уступных іспытаў у вышэйшыя навучальныя ўстановы, у выніку якога сёлета туды паступіла 50 працэнтаў рускамоўных студэнтаў у параўнанні з 5 працэнтамі ў мінулым годзе. А чаго варты тыя псіхалагічныя канфлікты і напружанне, з якімі сутыкаецца наш суайчыннік штодзень? А пытанне аб мове? Відавочна, што кожны павінен ведаць мову краіны, дзе ён жыве. Але ж гэтая самая дзяржава павінна паважаць правы тых меншасцей, якія жывуць на яе тэрыторыі, і забяспечваць магчымасць вывучэння роднай мовы. Тычыцца гэта, на жаль, толькі цывілізаваных краін. У Кыргызстане з гэтага года вывучэнне нават рускай мовы зменшана ў школе да дзвюх гадзін у тыдзень. Вывучэнне ж роднай мовы застаецца толькі справай бацькоў.

### АДНА СПРАВА — ПААБЯЦАЦЬ, ІНШАЯ — ВЫКАНАЦЬ СВАЁ АБЯЦАННЕ

Калі здараецца што-небудзь непрыемнае або нас адольваюць праблемы, мы звяртаем свой позірк да роднай хаты. Калі ты адлучаны ад радзімы і не можаш знайсці выйсця з той складанай і заблытанай сітуацыі, у якой апынуўся, ты шукаеш паратунку на сваёй Бацькаўшчыне, спадзеючыся на паразуменне і падтрымку.

**Ігар СМЯТАНКА:** "Сябры нашай суполкі — гэта спецыялісты вышэйшага класа, людзі розных прафесій, якія маюць пэўны вопыт у розных галінах гаспадаркі. А калі ўлічваць, што ўмовы, у якіх мы жывём, больш складаныя, то ўпэўнены, што наш вопыт будзе вельмі карысным для Беларусі. Пакуль што нам не так шмат і патрэбна — кавалак зямлі пад будаўніцтва дома і пазыка, якую будзем пасля ўсё жыццё выплачваць (усе распрацоўчыя і будаўнічыя работы мы бяром на сябе)".

Адразу пасля з"езда прадстаўнікі беларускай дэлегацыі Кыргызстана паехалі ў Гродна. Быў час адпачынку, і першы сакратар гарвыканкома адсутнічаў, але ж яго намеснік спадар Віктар Сіндзевіч сустрэў суайчыннікаў вельмі прыязна. Паабяцалі зямлю і дамовіліся аб сустрэчы на верасень, каб распачаць справу.

**Ігар СМЯТАНКА:** "У нас былі складанасці з білетамі. Зараз адзін білет з Бішкека да Мінска каштуе звыш 100 тысяч рублёў. Акрамя таго колькасць рэйсаў зменшана. Мы прыехалі толькі на пачатку кастрычніка і зноў накіраваліся ў Гродна. (Трэба заўважыць: я быў упэўнены, што нас не падвядуць, і нават звольніўся з працы. Астатнія былі трошкі разумнейшыя і прыехалі на разведку). Гэтым разам мы атрымалі шанец пераканацца, што словы і дамова з мясцовым кіраўніцтвам нічога не вартыя. Спадар Юры Масквічоў, з якім нам давялося размаўляць гэты раз, патлумачыў, колькі чалавек у горадзе стаіць у чарзе на атрыманне жылля. (Цікава, што спачатку лічба была 6, а потым 9 тысяч). Але калі мы будаваць будзем самі, то нам патрэбны толькі кавалак зямлі, і гэта ніякім чынам не паўплывае на чаргу. Тады спадар Масквічоў вельмі катэгарычна сказаў, што ў раёне не засталося ніводнай плямы, дзе можна паставіць дом, і наогул не існуе закона, згодна з якім яны павінны выдаваць зямлю. З такім прозвішчам я пэўна пасаромеўся б размаўляць з беларусамі і даваць адмоўны адказ. Магчыма пакіраваў бы да каго іншага, напрыклад, Гарадневіча", — вось так з гумарам скончыў Ігар Смятанка сваё распавяданне пра безвыніковае падарожжа ў Гродна.

### БЕЖАНЦЫ ЦІ НЕ БЕЖАНЦЫ!

Нельга не заўважыць, што адзіны, хто з самага пачатку і да канца шчыра і плённа дапамагаў нашым суайчыннікам і падтрымліваў іх маральна, гэта згуртаванне "Бацькаўшчына". Яно ўладкоўвала і плаціла за гатэль, спрыяла наладжванню кантактаў, дапамагала збіраць паперы. Каб даказаць, што ты беларус і што не браў кыргізскага грамадзянства, належыць сабраць аж 34 паперы, а калі жонка ці муж іншай нацыянальнасці, то іх ужо амаль што ў два разы больш.

**Ігар СМЯТАНКА:** "Вярнуўшыся ў Мінск, трэба было пачынаць усё спачатку. Куды б мы ні заходзілі, складвалася ўражанне, што мы толькі перашкаджалі працаваць. Тыя ж самыя пытанні, тыя ж самыя адказы: "У вас не страляюць, а таму мы не можам прызнаць вас бежанцамі". Гэта тым больш цікава, што закона аб статусе бежанца ўвогуле не існуе ў Беларусі. І калі няма падставы прызнаць нас бежанцамі, то няма падставы і не прызнаць. Квоты па перасяленню, якія павінна была распрацаваць Дзяржаўная служба міграцыі на працягу месяца, пачынаючы з 12 жніўня, больш чым за 2 месяцы засталіся ў тым жа пачатковым стане. Прыходзіла думка, што служба існуе толькі фармальна і дзяржава толькі траціць упустую грошы. У яе няма ні інтэрната, каб уладкаваць і накарміць людзей на выпадак, калі, не дай Божа, пачнуць страляць. Усё гэта менавіта тое, чым яны павінны займацца. Цяжка ўсвядоміць, што нікому да беларусаў замежжа няма справы і вяртацца нам няма куды. У такіх выпадках думаеш, што, магчыма, маюць рацыю тыя сябры нашай суполкі (а іх ужо каля 2 тысяч), якія, безвынікова зрабіўшы некалькі захадаў атрымаць жыллё ў Беларусі, праз Славянскі фонд атрымалі расійскае грамадзянства і, назаўсёды развітаўшыся з думкай вярнуцца на родную зямлю, жывуць цяпер бліжэй да яе, але хто ў Наўгародскай, а хто ў Смаленскай абласцях".

Дзіўная ўсё ж такі нацыя — беларусы. Спытайцеся ў любога замежніка, што яму падабалася ў Беларусі больш за ўсё. Амаль што не задумваючыся, ён адкажа: людзі, якія тут жывуць, іх гасціннасць, ветлівасць, дабрыня. І ніхто не будзе спрачацца, бо гэта так. Мы можам прызнаць бежанцамі і даць кватэры армянам, таджыкам, азербайджанцам. Але ж на сваіх гэтай спагады і дабрыні чамусьці нестае. Памятаеце, як у песні вядомага паэта Уладзіміра Высоцкага:

**"А люди все роптали**
**и роптали,**
**А люди справедливости хотят:**
**— Мы в очереди**
**первыми стояли,**
**А те, кто после нас,**
**уже едят.**

**Им объяснили,**
**чтобы не ругаться:**
**— Мы просим вас**
**уйдите, дорогие.**
**Те, кто едят, ведь**
**это иностранцы.**
**А вы, прошу прощенья,**
**кто такие!"**

Дык хто ж мы такія?.. Калі Бацькаўшчына будзе цурацца і грэбаваць сваімі дзецьмі, ці адбудуем мы сваю грамадскую супольнасць і нацыянальную еднасць?

**P.S. Пакуль пісаўся артыкул, Ігар Смятанка паспеў ужо з"ездзіць і ў Віцебскую вобласць. Як і ў Гродзенскай, спачатку яго запэўнілі, што праблем няма і пытанне будзе вырашана пазітыўна. Але ж праз дзень стала вядома пра адмоўны адказ. Такім чынам, блуканне па кабінетах працягваецца. Пасля тэлефоннага званка з Савета Міністраў у Віцебск было абяцана перагледзець пытанне. Заўтра наш суайчыннік, які стаўся чужым сярод сваіх на Бацькаўшчыне, зноў едзе ў Віцебск, каб атрымаць чарговы прысуд мясцовых кіраўнікоў. Інтарэсы грамадства і кіраўніцтва ў нашай дзяржаве, на вялікі жаль, пакуль што не супадаюць.**

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# СУСТРЭЧА З БЕЛАСТОЦКІМІ СТУДЭНТАМІ

Не ведаю, колькі замежных студэнтаў вучыцца сёння ў беларускіх вышэйшых навучальных установах, а вось што датычыцца выпускнікоў беларускіх ліцэяў з Гайнаўкі і Бельска-Падляскага — ведаю дакладна: 102 чалавекі. Некаторыя з іх у канцы мінулага тыдня сустрэліся з кіраўніцтвам Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, што прыехала ў Мінск, а таксама з прадстаўнікамі таварыства "Радзіма".

Першых беластоцкіх студэнтаў прыняў Гродзенскі універсітэт, але пасля перамоў міністра адукацыі Польшчы Стэльмахоўскага з міністрам адукацыі Беларусі Гайсёнкам выпускнікоў беластоцкіх ліцэяў сталі прымаць практычна ўсе беларускія навучальныя ўстановы. Прычым, трэба заўважыць, без экзаменаў, справядліва лічачы, што абы-каго беларускі ліцэй дасылаць не будзе. Між іншым, так і атрымалася. Як заўважыў з задавальненнем прафесар Баршчэўскі, звяртаючыся да студэнтаў: "Краіне за вас не сорамна, ліцэям таксама. Нам прыемна, што паўсюль аб вас добра адклікаюцца, што вы ўласціва выкарыстоўваеце свой шанц. Але, — гаварыў далей А. Баршчэўскі, — мы прыйшлі на гэтую сустрэчу, па-першае, таму, што хацелі спазнацца са ўсімі вашымі праблемамі, бедамі і клопатамі, а па-другое, мы б параілі вам стварыць сваю ўласную арганізацыю". Да спадара Баршчэўскага далучыўся спадар Васілёнак, першы намеснік старшыні праўлення таварыства "Радзіма", які заўважыў, што, аб'яднаўшыся, студэнты лягчэй вырашаць свае праблемы. А яны ў студэнтаў ёсць, ды яшчэ якія. Мяркуйце самі: стыпендыя сёння складае 13 тысяч "зайцаў", і гэта пры тым, што абед у сталовай "пацягне" на тысячу рублёў. Вядома ж, цяжка ўсім, але калі мясцовым, беларускім студэнтам так ці інакш дапамагаюць бацькі, то ў польскіх беларусаў яны далёка — за мяжой... Дарэчы, адна з галоўных праблем — вызначыць, хто яны. Як сказаў адзін з іх: "Калі ад мяне нешта патрабуюць, то гавораць — ты абавязаны, ты з-за мяжы, калі нешта трэба мне — на гэта часам не звяртаюць увагі — ён жа свой, беларус!" А бывае і інакш: у Беларусі лічаць за паляка, у Польшчы — за беларуса, вось і атрымліваецца сітуацыя "свой сярод чужых, чужы сярод сваіх". Хвалявала будучых спецыялістаў і тое, ці будуць сапраўднымі ў Польшчы дыпломы, якія яны атрымаюць тут, на Беларусі. Як зазначыў прысутны на сустрэчы супрацоўнік Міністэрства адукацыі спадар Генадзь Пяцігор, Беларусь і Польшча ўваходзяць у лік краін, якія ў свой час падпісалі міжнароднае пагадненне аб узаемнай тарыфікацыі дыпломаў, такім чынам, праблем узнікнуць не павінна.

Цікава было даведацца ад спадара Баршчэўскага, што ў Амерыцы прызнаецца дыплом толькі адной польскай вышэйшай навучальнай установы — Ягелонскага універсітэта. І тое добра, беларускія ВНУ не могуць пахваліцца нават такім дасягненнем.



Размова працягвалася доўга і закончылася тым, што студэнты абралі рабочую групу па стварэнню свайго аб'яднання, якое захацелі назваць "Беласточчына". У сваю чаргу, спадары Баршчэўскі і Васілёнак ад імя арганізацый, якія яны прадстаўляюць, паабяцалі студэнтам падтрымку і дапамогу.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКУ:** сустрэча кіраўніцтва БГКТ і таварыства "Радзіма" з беластоцкімі студэнтамі.

**Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА.**

*НА 100-я ЎГОДКІ НАРАДЖЭННЯ Кастуся ЕЗАВІТАВА (5.XI.1893 — 23.V.1946)*

# ПАКЛІКАНЫ КРАІНАЙ БЕЛАРУСЬ

## З ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ К. ЕЗАВІТАВА

**Да М. Абрамчыка**
28 траўня 1943 г., Рыга.

Высокапаважаны грамадзянін Абрамчык!

Тое, што пішаце Вы аб адношаньні да В. Захаркі, я ўжо даўно ведаў. Гэтакае ж ганебнае адношаньне было і да Крэчэўскага. Іх пачалі заўважаць і адгуківацца аб іх з доляю пашаны толькі пасьля іхняе сьмерці, ды і то толькі таму, што спадзяваліся быць уладарамі іхняе палітычнае спадчыны.

Асабліва ганебна ставілася да Захаркі і Крэчэўскага, а таксама да Варонкі і да Езавітава беларуская хадэцыя ў Вільні, якая Беларускую справу разглядае як справу падсобную для сваёй каталіцкай акцыі. У вочы мне гаварыліся заўсёды камплімэнты (іншы раз двусэнсоўныя), а за сьпіной і ў прэсе выліваўся ўсялякі бруд.

Я-ж лічыў і лічу, што не народ для рэлігіі, а рэлігія для патрэб тае часткі нашага народу, якая жадае быць рэлігійнаю. І што духоўнікі нашыя нагвалт лезуць у палітычную працу, а ня робяць шырокай нацыянальна-культурна-ўсьведамляючай працы, гэта ёсьць вялікім заганам для гэтых духаўнікоў.

Згодзен я з правідловымі думкамі Вашымі аб 25-м сакавіку і адношаньні да гэтага акту.

Канец артыкулу аб В. Захарцы я ўжо даўно паслаў і напісаў д-ру Тумашу аб патрэбе яго выдрукаваць. Ён мне абяцаў гэта зрабіць.

Шчырае прывітаньне Вашай жонцы. Чакаю ейную картку і аўтобіографію. Трэба і Вашу ў беларускай мове. Па-магчымасьці шырэй, бо ў сваім "БЕЛАРУСКІМ БІОГРАФІЧНЫМ СЛОЎНІКУ" хачу я паказаць, як в ы р а с л а наша інтэлігенцыя і з якіх колаў яна выйшла. Таму пажадана даць апісаньне быту бацькоў і дзедаў, а таксама братоў і сёстраў.

Цісну руку. З грамадзкім прывітаньнем.

Учора атрымаў назад з Бэрліну "Беларусы ў Латвіі", пасланыя экзэмпляры на адрас "Раніцы", але на Ваша імя.

Загадаю паслаць яшчэ раз, але маленькаю пачкаю.

Жыве Беларусь!

*Спр. 85, арк. 82-82 адв.*

**Да М.Абрамчыка**
Рыга, 28.VII.1943.

Высокапаважаны інжынеру!

Сённяка атрымаў Ваш ліст ад 19.VII.1943 і зараз жа адказую, бо тэма ў н у т р а ш н і х беларускіх грамадзкіх узаемаадносінаў надзвычайна важная тэма.

Калі Беларусь стане на ногі, дык мы зможам ачысьціць сябе ад пылу, бруду, трэсак і плямаў ды атынкаваць і пафарбаваць фасад і вонкавыя пакоі Беларускага Дому.

Зараз трэба даць магчымасьць працаваць усім і прыглядацца да іх.

Сібір заваяваў бандыт Ермак Цімафеевіч, якога разумна накіраваў на працу купец-прамысловец Строганаў. Амэрыку адкрылі і заваявалі асобы, маральны ўзровень якіх ведамы з даволі кепскага боку.

Беларускі народ у сярэднім высокамаральнага складу. І якраз гэтая маральнасьць пазбавіла нас ініцыятывы, рашучасьці і энэргіі. Мы не пускаліся ў налёты, як нарманы, нашчадкі якіх сённяка складаюць хаця ж і невялікія швэцкія і нарвескія народы, але маюць і дзяржаўнасьць і культуру і новыя маральныя пакаленьні. Мы не мелі духовае цьвёрдасьці, каб даць адпор [чужацкаму] засільлю.

І зараз нам патрэбны людзі ініцыятывы, волі, спрыту, розуму. А чысткі зараз — шкодныя.

Мы і так задужа грызёмся.

Моцныя людзі, якія нам якраз зараз патрэбны, часта-густа пераступаюць агульнавызнаныя нормы, але зараз караць патрэбна было б толькі з д р а й ц а ў нашага народу і руху.

А Аляксандра III лёзунг "Предпочитаю умного вора честному дураку" — яшчэ можа нам згадзіцца ў гэтыя пераходныя часы.

Дужа і я заняты. Але пішу гэта Вам, і не як нейкае "навучаньне", а дзеля абмену думкамі, бо пытаньне гэтае дужа важнае.

Ходзе мне аб тое, каб усё наша грамадзтва станула на грунце з ь б і р а н ь н я сілаў і ўзаемнае падтрымкі, унікаючы унутрашніх спрэчак.

Моцна цісну руку. З шчыраю прыязьню.

Жыве Беларусь!

*Спр.85, арк.85, 86.*

* * *

**Да кс. А.Станкевіча**
25.VIII.1943, Рыга.

Высокапаважаны Айцец Адам!

На Ваш адрас пасылаю пісьмо на імя нашага мастака Міхася Забэйды-Суміцкага. Калі б яго не было ў Вільні, дык прашу адрасаваць далей, на новы ягоны адрас.

Запрапанаваў я прыняць дырэктарства ў Індры і сп. М.Забэйдзе. Ён змог бы тамака ператварыць гімназыю ў музыкальную беларускую пляцоўку на ўвесь наш усход. Магчыма, што стварылася б потым і музычная школа, і кансэрваторыя.

Пагутарце і Вы з ім на гэту тэму.

Як мастак ён ня толькі нічога ня згубіць і не загіне сам, але створыць нам цэлую школу сваіх пасьлядоўнікаў.

Гэта будзе запраўдная праца над музычным выхаваньнем нашага народу.

Чакаючы ласкавага адказу Вашага, моцна цісну руку.

**К.ЕЗАВІТАЎ.**

*Спр.79, арк.14.*

**Да Фр.Аляхновіча**
26.XII.1943, Рыга.

Высокапаважаны дзядзька Аляхновіч!

Як я і пісаў Вам неяк, наша жыцьцё гэтак складалася, што мы спатыкаліся толькі "на ляту", а кантакт падтрымоўваць даводзіцца толькі седзячы за пісьмовым сталом.

Зайздрошчу Вам, што працуеце ў родным асяроддзі, сярод сваіх людзей, бо мне ўжо 25 год даводзіцца працаваць сярод чужынцаў або сваіх, якія паступова трацяць сувязь з роднай глебай і якіх увесь час даводзіцца духова ратаваць ад загібелі.

Заўсёды прыходзіцца т о л ь к і д а в а ц ь нешта ад сваёй энергіі і духу, а ад іншых "зарадкі" ня маю. Павінен "самазаражацца" праз кнігу, газэту, верш і ўласны дух.

Гэта цяжка. Быццам сам сябе разьвеіваеш у паветры. Хацелася б што-колечы мець і ад іншых, ад таго асяроддзя, у якім штодня круцішся.

Добра было б, каб напісалі Вы якую пьесу для дзяцей, дзе б было паказана, як дзеці працуюць і як зарабляюць на сваю сямейку (ці як зараблялі пастушкі і іншыя). Пры гэтым было б канешне патрэбна, каб дзіцёнак адчуваў сябе шчасьлівым ад працы і ганарыўся гэтым.

Нашы "нашаніўцы" часта дужа плакалі над пастухом або батраком, які ідзе да чужых на працу (а ў малазямельнага беларуса выхаду няма — трэба ісьці, бо на бацькавай зямлі толькі адзін сын можа ўтрымацца), і ўспрымалі гэты адыход як вялікае няшчасьце.

А трэба, каб быў імпэт да працы, смак да яе, пачуцьцё адказнасьці за ейныя вынікі, радасьць за добрую ўдачу і пачуцьцё за добрае выкананьне, сумленнае адношаньнне да даручанага.

Няможна на працу глядзець як на няшчасьце. Гэта прыгонная і рабская псыхіка. Вось жа трэба было б пачаць перавыхаваньне моладзі і грамады ў гэтым кірунку.

Як Вы глядзіцё на гэта?

Моцна цісну руку.

Жыве Беларусь!

Не маю ніякіх дадзеных аб нябожчыку В.Іваноўскім: калі радзіўся, дзе вучыўся і гэтак далей? Ці ня маеце Вы?

*Спр. 88, арк.43.*

**У рэдакцыю газеты "Раніца"**
31 сакавіка 1944 г., Рыга.

Высокапаважаны спадару Рэдактару!

Адразу не заўважыў я, што пры перадруку майго артыкулу аб Віленскай Беларускай гімназіі на машынцы, машыністка прапусьціла вялікі прадапошні абзац. Заўважыўшы, загадаў перадрукаваць апошнюю балонку гэтага артыкулу і пасылаю Вам дадаткова.

Адначасна перасылаю новы свой артыкул аб Максіму Багдановічу. Дзеля ягонае юбілейнае даты трэба было б яго зьмясьціць як хутчэй. Даў яго я вялікім, бо шырокай нашай грамадзкасьці мала вядома аб Багдановічу і яна ведае толькі кароткія, дадзеныя ў "Гісторыі Беларускае Літаратуры" Максіма Гарэцкага весткі. Аб бацьку ж Максіма Багдановіча, Адаме Багдановічу, і аб ягонай маці, якія а б о д в ы мелі літарацкія здольнасьці, наша грамадзтва і зусім не ведае.

Далей у надсылцы маіх артыкулаў будзе некаторы перарыў, а па перапынку гэтым надашлю канец артыкулу ў 25-ю ГАДАВІНУ УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ ды артыкулы аб Сяргею Палуяне і, магчыма, што будзе гатоў артыкул аб Антоне ЛУЦКЕВІЧУ (уласнаручную аўтобіографію ягоную я маю, але яна мала мяне задаволівае сваёй кароткасьцю).

Жыве Беларусь!

*Спр.86, арк.26.*

**Ларыса ГЕНІЮШ**

### ШМАТ ВЁСНАЎ

*(сябру К.Езавітаву да 50-годзьдзя)*

**Шмат вёснаў прайшло ў Тваім дзейным жыцьці,**
**Шмат зім прамінула карысных,**
**Хацелася б шчыра к Табе падыйсьці,**
**Руку далікатна пацісньць.**
**Хацелася б зьвітым з пачуцьцяў вянком**
**Аквеціць задумную голаў**
**За дні, што для краю гарэлі агнём,**
**За сілу, за сэрца, за кволасьць!**
**Дзён юных, што ў працы мінулі, ня жаль.**
**Сяўню ж утрымаць яшчэ можаш.**
**Зьбярэш не адзін яшчэ буйны ураджай**
**З ніў родных із помаччу Божай.**
**Ня раз яшчэ будзеш дажынкі спраўляць.**
**З вянком і народнаю стужкай**
**Мы прыйдзем ня раз Змагара прывітаць**
**Ад вернай сям'і беларускай.**

*Прага, лістапад 1943 г.*
*З час. "Новы шлях", 1943, N 22, стар. 14.*

**Публікацыя Аляксея КАЎКІ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 44, 45.**

*ПАМЯЦІ Сяргея КАРНІЛОВІЧА*

# РУПЛІВЕЦ З ГАЛУБІНАЙ ДУШОЙ



СЯРГЕЙ Карніловіч збіраўся ў кастрычніку прыехаць на Беларусь разам з дабрачыннай місіяй сусветна вядомага прапаведніка Паўла Моара, прывезці лекі на падмогу і ўратаванне пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы. Справа для яго звычайная: трэці год запар ён здабываў у Амерыцы і развозіў па беларускіх бальніцах скрынкі з лекамі, а па дзіцячых сірацінцах — абутак і адзенне, якое ён спакваля накупліваў у крамах і розных льготных распрадажах. Турбот хапала. Але ён жыў сваім клопатам і меў ад яго задавальненне.

Каб перавозіць тавар і лекі, а таксама прыезджых з Беларусі гасцей, найперш прысыланых на лячэнне дзяцей, набыў адмысловае аўта, так званы "ВЭН", штосьці падобнае на наш "РАФік" — пакаўны і ўмяшчальны. Цяжэй было развозіць тут, але дапамагалі добрыя людзі, як, скажам, старшыня калгаса ў родных мясцінах. Такім людзям быў шчыра ўдзячны, нібы ўсё гэта не так нам, жыхарам Беларусі, а яму было патрэбна. Бог яго ведае, мо ён уважаў нас за малых дзяцей, якія не вельмі ўсведамляюць бяду, у якой апынуліся. Ва ўсякім разе падзякі ні ад кога не чакаў і не патрабаваў — рабіць людзям дабро было яго ўнутранай душэўнай патрэбай.

Цяга да бескарыслівага служэння людзям была ў ім такой жа моцнай, як і да роднага слова, культуры, да спазнання сваёй гісторыі. Ён з"яўляўся сапраўдным інтэлігентам, аднак ніякіх дыпломаў аб сканчэнні навучальных установаў не меў, хоць, напэўна, і мог бы мець, каб не вайна, якая сілком адарвала яго і ад роднай мамы, і ад Маці-Беларусі. Падлеткам быў вывезены на прымусовыя работы ў Нямеччыну, зазнаў там гора, спрабаваў уцякаць і не адзін раз апынаўся на мяжы смерці. У канцы вайны трапіў у так званыя лагеры для перамешчаных асобаў (ДПІ), вучыўся ў беларускай гімназіі і ўвогуле быў далучаны да беларускага руху, выхоўваўся як свядомы патрыёт сваёй Бацькаўшчыны.

Але дарога да яе была адрэзана — і сам ведаў, і паўсюль расказвалі пра рэпрэсіі над людзьмі ў перадваенны час па самаму малому падазрэнню. Ды Беларусь нязводна жыла ў ягоным сэрцы, клікала да сябе ласкавымі галасамі маленства. І ён быў адным з першых паваенных эмігрантаў, які рызыкнуў наведаць Радзіму яшчэ ў тыя, з жорсткімі ідэалагічнымі драмамі, часы. Прыехаў як турыст, без права адхіляцца ад вызначанага маршруту. І за ім няўхільна сачыла пільнае вока прыстаўленай "асобы ў цывільным".

У душы ад усяго засталася прыкрасць і няўцямнасць — упершыню ўбачаны Мінск здаўся чужым, зусім непадобным на сталічны горад, цалкам пазбаўленым свайго нацыянальнага аблічча.

Але праз нейкія дзесяць гадоў затрашчала імперыя і яе ідэалогія, рухнулі відочныя і невідочныя сцены, што падзялялі краіны і народы, стала магчымым ездзіць, куды хочаш, і сустракацца, з кім хочаш. І ён зачасціў на Беларусь штогод. Апошні раз быў на Першым з"ездзе беларусаў свету, дзе адбылося нямала і доўгачаканых сустрэч, і нечаканых знаёмстваў. Але часу бракавала, прыспешваў абавязак паразвозіць дастаўленыя самалётам лекі і іншую дапамогу. У Докшыцы да сястры і ў родныя Таргуны да брата Валодзі заглянуў усяго на пару гадзін. Усіх абнадзейваў, што неўзабаве, у кастрычніку, зноў прыедзе і будзе вальнейшым. На наступнае лета таксама меркаваў выбрацца надаўжэй і нават адпачыць у Белавежскай пушчы, дзе мы сёлета, везучы лекі ў Пінск, пабывалі пару гадзін надвячоркам і пераначавалі ў гатэлі.

Пушча ўскалыхнула і ўразіла нябачаным дасюль звярыным царствам, магутнымі пракаветнымі дубамі, гаманліваым птушыным спевам, настоеным на зёлках водарам. І зашчымела душа, і закарцела прыехаць сюды зноў, пабыць у спакоі тыдзень ці два, пазбыўшыся ад заўсёдных клопатаў, якія роем абсядалі яго і там, у Амерыцы, і тут, на Бацькаўшчыне. Я ў яго спытаў, калі ён апошні раз адпачываў і ці адпачываў увогуле. Ён, неяк хітравата зірнуўшы на мяне, толькі пасміхнуўся...

На змену кастрычніку набліжаўся лістапад, паездка на Беларусь чамусьці затрымлівалася. Напісаў яму ліст, спрабаваў патэлефанаваць. І раптам такая нечаканая, трагічна-неймаверная вестка: у пятніцу, 29 кастрычніка, Сяргея Карніловіча не стала, ён ужо ніколі не прыедзе на Беларусь, а я па тэлефоне не пачую яго такога па-хлапечы непасрэднага, бадзёрага голасу:

— Ну дык здароў, Аўген! Як жывеш?

Гучала не як з-за тысячы міляў, а нібы чалавек зайшоў у хату і прывітаўся з парога.

Больш не патэлефануе і не зойдзе, не забярэ сваёй курткі, якую ён, спяшаючыся ў іншае месца, пакінуў у нас, а нагадаў пра гэта толькі раніцой, калі мы ад"язджалі з гатэля ў аэрапорт і заехаць па яе не было часу.

На хаду спынілася зняможанае сэрца, абарвалася трымцлівая струна, і яе голасу больш не пачуеш, не даклічашся з далёкай і халоднай смугі.

У роспачы сёння не адзін я. Адчуваю, як ускалыхнулася ў журбе і замаркоцілася па Сяргею ўся беларуская Амерыка, як жалобная вестка спакваля агалошвае нашу эміграцыю ў розных канцах свету, дзе яго ведаюць і любяць. А гора ягоных крэўных я адчуў па тэлефоне — хіба маглі яны прадбачыць, развітваючыся ў ліпені, што Сяргеева нага больш не ступіць на родны поплаў, а яго цёплыя ласкавыя рукі не прыгорнуць да грудзей гурт малечы (такое фота засталося на памяць), якая штогод нецярпліва чакала яго з далёкага выраю...

Разам з Сяргеем Карніловічам адышла ў нябыт істотная часцінка нашай праўдзівай нацыянальнай сутнасці, неацэннага духоўнага і душэўнага скарбу, які народ здолеў ашчадзіць у чужацкіх навалах і, што характэрна, захаваць і ў далечыні ад Бацькаўшчыны. Мо нават больш арганічна, чым тут, у сябе дома, дзе ўсё настырней душэўнасць і бескарыслівасць выцясняюцца разлікам на выгоду і голым рацыяналізмам.

Я не здзіўлюся, калі Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква, да якое Сяргей Карніловіч належаў і быў яе шчырым вернікам, узвядзе яго ў сан свайго святога, бо чыё ж, як не яго, жыццё асвечана найбольшай святасцю і самаахвярнасцю.

Жыў ён па-хрысціянску, паманаску сціпла ў невялікім, падобным на келлю, пакойчыку, дзе стаяў ложак, стол, крэсла, паліцы з кнігамі і заставаўся вузкі, як праціснуцца, праход. І гэта пры тым, што Сяргей з"яўляўся саўладальнікам (разам са сваім пабрацімам-самотнікам Кастусём Калошам) досыць вялікага дома, асноўная плошча якога цалкам аддавалася пад беларускія патрэбы. Тут штодня перабывала дзесяткі людзей — адны прыходзілі і адыходзілі, іншыя, прыезджыя, асталёўваліся на часовае жытло, маючы да сваіх патрэб усе выгоды, прынамсі напакаваную харчам і пітвом лядоўню. І ўсё за дзякуй, бо плата гаспадарамі ўспрымалася як абраза.

Не ведаю, ці назаляў Сяргею заўсёды людскі гармідар, але ён ніколі не скардзіўся на яго, на клопаты, што вынікалі з гэтага супольнічання. Трэба было — садзіўся за кіраўніцу машыны, ехаў, нават не зважаючы і на начную пору, сустракаць гасцей з Беларусі ў няблізкі, амаль за тысячу кіламетраў Нью-Йорк ці іншы горад, а потым, дабавіўшы іх у славуты "Полацак", вазіў паказваць Ніягарскі вадаспад ці куды іначай. Апошнім часам, праўда, дапамагаў яму ў гэтым пляменнік Слаўка, які ў бескарыслівым жаданні рабіць людзям дабро шмат узяў ад свайго дзядзькі. Ну а Сяргей, мяркую, проста не ўяўляў сваё жыццё па-за грамадой, па-за беларускай справай.

З раніцы да вечара быў у заўсёдным руху, некуды спяшаўся, некаму дапамагаў, штосьці ўладжваў і наладжваў. Клопатаў тых было аж занадта, а памагатых малавата. Але ён ні на кога не наракаў, гэтымі турботамі жыў, многія з іх былі яму апірышчам у жыцці. Як клопат пра маленькага Рамана.

Гэтага хлопчыка, якому прадракалі ў Беларусі смерць ад невылечнай хваробы, узялі да сябе амерыканскія беларусы... і, о цуд! — дзіцянё пад наглядам лекараў акрыяла, стала бадзёрым і здаровым. Дапамаглі, вядома, лекі, догляд, сучасная медычная апаратура, але ж без душэўнай ласкі і спагады магло і не паспрыяць адмысловае заморскае лячэнне.

Трэба было бачыць і чуць, як шчыра радаваўся маленькі Ромік, пачуўшы ў пад"ездзе голас свайго старэйшага сябра, як хлапчанё імчалася наўзгалоп па доўгім калідоры апартаментаў, дзе яны разам з матуляй жылі ў Евы Яраховіч (яшчэ адной светлай і спагаднай беларускай душы) насустрач Сяргею, падаючы з разгону ў яго абдымкі.

Дзе ты цяпер, мілы і слаўны Ромік, як адбілася на табе гэтая нечаканая смерць, ці ўсведамляеш ты хоць, кім быў табе гэты, здавалася б, зусім чужы чалавек, і чым ты яму абавязаны ў сваім жыцці?!

А як будзе пачувацца без Сяргея спадарыня Каханоўская, вядомая на эміграцыі пісьменніца Аляксандра Саковіч, да якое ён штодня наведваўся, быў ёй за сына і брата, дбаў пра тое, каб пажылая жанчына была забяспечана ў сваёй кватэры ўсім патрэбным для пражыцця.

І як увогуле пойдуць справы ў беларускай грамады ў Кліўлендзе — пакуль што, бадай, самай з'яднанай і моцнай на эміграцыі. Ён быў яе душою, але не проста альтруістам, а рэальным чалавекам, які добра разумеў, што на адным энтузіязме далёка не заедзеш, а грошы, каб патраціць іх на добрыя справы, трэба найперш зарабіць. І зарабляў. Гэта ён быў асноўным завадатарам і арганізатарам бінга, якое дае немалы прыбытак беларускай супольнасці, прыходу Царквы Жыровіцкай Божай Маці. На здабытыя грошы, з асабістым укладам Карніловіча, пабудаваны ўжо славуты ў шырокім беларускім свеце культурна-грамадскі асяродак "Полацак". Побач з ім павінна ўзвесціся новая беларуская праваслаўная царква, пра што Сяргей думаў да апошніх дзён свайго жыцця.

З Карніловічам мяне звяло і пасябравала Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". У станаўленні гэтай грамадскай арганізацыі, як і ў правядзенні Усебеларускага форуму, яго роля, уважаю, адна з самых вызначальных. Бо менавіта ён, бадай, быў першым на эміграцыі, хто хутчэй мо інтуітыўна, чым розумам, паверыў у патрэбу задуманай супольнасці і з першых крокаў падтрымаў яе дзейнасць. Пра намеры і мэты згуртавання яму распавёў на той час сябра аргкамітэта ЗБС "Бацькаўшчына" Лявон Казыра, які прысутнічаў у верасні 1990 года на XIX Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Кліўлендзе. Нашае ж знаёмства па рэкамендацыі Казыры адбылося завочна, праз лісты і па тэлефоне, але паразуменне ўзнікла адразу, і гэта, мабыць, спрычынілася да таго, што летам 1991 года — толькі падумаць, упершыню ў гісторыі! — група беларускіх эмігрантаў са Злучаных Штатаў па афіцыйнаму запрашэнню (у гэтым выпадку грамадскай арганізацыі) прыехала на Беларусь. А на другі год ізноў праз "Бацькаўшчыну" і пры самым пільным старанні Сяргея Карніловіча нашых суродзічаў прыляцела значна больш, каля трох дзесяткаў. Пра іх побыт шырока пісалі ў друку і на Беларусі, і ў эміграцыі. Менавіта тады, улетку 1992 года, на супольным пасяджэнні з эміграцыяй Радай ЗБС "Бацькаўшчына" было прынята рашэнне аб скліканні праз год З'езда беларусаў свету. Шмат хто з чытачоў, напэўна, ведае пра страсці, што разгарэліся напярэдадні вакол гэтай падзеі, пра заявы аб няўдзеле ў з'ездзе асобных арганізацый і партый, аб закліках да эміграцыі байкатаваць гэтае мерапрыемства. Ці трэба даводзіць, колькі мне, як старшыні згуртавання, давялося перажыць, каб ўратаваць самую ідэю з'езда як сімвала ўсебеларускага яднання. Дык вось чалавек, на якога я найбольш абапіраўся сярод эміграцыі, і быў Сяргей Карніловіч. Ад пачатку і да канца ён шчыра і цвёрда верыў у патрэбу нацыянальнага яднання і рабіў усё дзеля таго, каб не толькі кліўлендцы, але і ўсе беларусы Амерыкі, а за імі і свету праніkліся гэтай ідэяй. А на мае сумненні і трывогі ўпэўнена, з уласцівай яму ў асобныя моманты ўпартасцю адказваў:

— Ат, гародзяць дурніцу, толькі людзей баламуцяць. Не бяры да галавы! Ад нас чалавек сорак едзе, з Чыкага збіраюцца, з Нью-Йорку, а там і рэшта рушыць...

Ён сапраўды быў прыхільнікам яднання ўсіх, хто сваёй дзейнасцю мог паспрыяць адраджэнню Беларусі, бо ведаў, што дасягнуць гэтага нельга сотняй, тысячай патрыётаў, што тут патрэбна абуджэнне і рушэнне народа.

Цікава, пра што ён думаў, гледзячы з залы (сядзець у прэзідыумах арганічна не любіў) на ўчарашніх адмаўленцаў з'езда, якія раптоўна ператварыліся ў яго шчырых прыхільнікаў, у герояў дня. Мабыць, радаваўся ціхай радасцю, што ўсё атрымалася так, як і павінна было здарыцца, што беларуская ідэя, пераадолеўшы патырчакі, сягнула яшчэ адзін крок наперад...

Ад нас адышоў чалавек незвычайны. Страта невымоўная і незаменная. Ён быў надзвычай сціплым, абсалютна пазбаўленым імкнення да паказухі і славы. Тым большы наш абавязак зрабіць усё належнае дзеля ўшанавання памяці вялікага Працаўніка на ніве беларускасці. Спадзяюся, што пра гэта падбаюць і ў родных яму Докшыцах. А свой абавязак я бачу ў тым, каб сабраць і выдаць кніжкай успаміны пра Карніловіча людзей, якія яго ведалі.

Многія з тых, хто нас бачыў разам, асабліва падчас майго побыту ў Штатах, па нейкаму падабенству называлі нас братамі.

Я ўдзячны лёсу, што запазнаўся і пасябраваў з гэтым слаўным чалавекам, і жальбую ў глыбокай несуцяшальнай скрусе, што нашае пабрацімства было такім кароткім.

Хай табе, дружа, пухам будзе амерыканская зямля і сніцца вечны сон аб вольнай, незалежнай і шчаслівай Беларусі, пра якую ты заўсёды марыў і ніколі не расставаўся душою.

**Яўген ЛЕЦКА.**

## НАТАТКІ ПРА ТВОРЧАСЦЬ Яна ЧЫКВІНА

# БЫЦЦЁ І ЧАС У ЛЮСТЭРКУ ПАЭЗІІ

Можна пайсці і далей — прымяніць трэці закон дыялектыкі. Арганічная сялянская культура ("ойчы дом" у паэзіі Я. Чыквіна) ёсць тэзіс-аснова, сучасная урбаністычная цывілізацыя — яе аднабокае адмаўленне; а ў будучыні магчымы універсальны сінтэз — адраджэнне арганічнай культуры с селекцыйным захаваннем і ўдасканаленнем навукова-тэхнічных дасягненняў цывілізацыі. У гэтым глабальным аспекце мне бачыцца паэзія Яна Чыквіна не толькі на сумежжы культур і не толькі на парозе паэтычных міфаў і эмпірычных рэаліяў, але і на сутыкненні мінуўшчыны і будучыні. Інтэлектуальны трагізм і душэўная драма яго лірычнага героя інспірыраваныя экзістэнцыяльнымі канфліктамі паміж разбуранай "сялянскай" культурай (да "сялянства" я тут залічваю таксама фальваркавае дваранства, шляхту) і урбаністычнай цывілізацыяй.

Чыквінавая "Святая студня" пачынаецца з элегічнай іроніі: "На ўсе лады скуголіць наша планета, // Невядома куды імчыцца. — // Ніхто на свеце ўжо не слухае паэтаў..." Не слухаюць, бо на месца паэтаў, рыцараў і прарокаў селі бізнесмены, палітыкі і гандляры. Яны героі нашага часу. Хіба што паэта часам паслухае другі паэт. У лепшым выпадку — яшчэ і крытык. Па абавязку сваёй прафесіі.

Непрыкаяны герой паэта, гэты Дон Кіхот эпохі рэактараў і камп'ютэраў, не можа прымірыцца з бяспамяцтвам новага паганства і паўтарае, як заклінанне: "Цалаваць былое так хочацца" ("Даспелае сонца"). Вось ён уваходзіць у прыгожы лес, як у бацькоўскі дом. Але звяры і птушкі ўцякаюць ад яго. Бо "прырода зненавідзела прыроду" ("Іду лесам"). Лірычны персанаж вянка санетаў "Святая студня" Адам Міцкевіч "накладваецца" на вобраз аўтара: абодва — бяздомныя вандроўнікі, яны шукаюць свой страчаны дом, пытаючыся ў Сусвету: "Дзе Рым, дзе Крым, а дзе мая Айчына?" Пытанне экзістэнцыяльнае, а не толькі бытавое ці палітычнае.

Трэцяя кніжка "Неспакой" (1977) у пэўным сэнсе завяршыла станаўленне паэтычнай мовы аўтара. Пераважае філасофская, медытацыйная плынь. Яна, здаецца, абумовіла зварот паэта да белага і вольнага вершаў. Літаратурны рэдактар "Неспакою", вядомы беластоцкі пісьменнік Сакрат Яновіч, у прадмове дакладна вызначыў яго танальнасць: "Чыквін — паэт задуменняў. Паэт пытанняў. Лірык інтэлекту... Вершы яго маюць глыбіню падтэкстаў. Яны свядома напісаны з непадатлівай шурпатасцю. Аўтар перакананы, што ні жыццё, ні творчасць не з'яўляюцца гарманічнай бягучасцю... Такі свет можна любіць мудрасцю старога чалавека. Або маючы вялікую культуру".

"Неспакой" развівае і драматызуе канфлікты, пазначаныя ў папярэдніх кніжках. Новы зборнік вершаў пачынаецца з элегічнага звароту да землякоў: "Сябры мае з вясковых лет,// аб вас не ведаю нічога я,// нікому не патрэбны ў горадзе паэт". Маральна-філасофскі сэнс гэтай спавядальнай лірыкі — у пошуках страчанага адзінства чалавека, Бога і прыроды: "Усе мы// Выйшлі па-за брамы раю,// цвярозым холадам павеяла// і расступілася пазнанне —// Прэм наперад,// назад не аглядаючыся.// Дый хто цяпер,// з далечыні такой// у рай загляне.// І толькі ў снах,// дзіцячых ці старэчых,// праз гушчу штодзённых клопатаў// для нас святло ірдзее..."

Вонкавы сімбіёз вёскі і горада стварае гратэскавы вобраз кентаўра, намаляваны паэтам у гумарыстычнай інтанацыі: "Стаялі коні на тратуары.// Ніхто не ведаў: чые? чаму?// На месцы тым, дзе быў хамут —// віселі звонкія гітары". На думку паэта, чалавек "ад Гамера да касмічнай эры" не знайшоў гармонію, усё ў ім перамешана — дабро і зло, шаленства і асколкі веры ("Вячэрні роздум").

І дзе той Спрадвечны Сейбіт жыцця, які ў рэшце рэшт аддзеліць пшаніцу ад пустазелля?

У зборніку "Кругавая чара" ёсць верш "Феномен дня". Гэта прароцтва пра старэчую немач нашай цывілізацыі, калапс прыроды, грамадства, культуры:

**"...Старэе дзнь, і з ім**
**старэе ўсё кругом:**
**Вада ў калодзежы, калодзеж**
**і чарпальнае вядро,**
**Сцяжыны да вады**
**і проста сцежка ў дом...**
**Старэе вуліца, суседзі,**
**зайздрасць і данос,**
**Міністры ўсе, усё**
**бюракратычнае багно,**
**Партрэты ідалаў жывых**
**і не жывых даўно.**
**Ідэі пастарэлі, і пастарэла**
**радасць, боль душы,**
**І пастарэла крыху**
**пустата цішы,**
**І цалкам пастарэлі**
**гімнаў клавішы.**

Урэшце "састарылася сонца, і агонь яго прытух..." Гэта наш, славянскі, беларускі эсхаталагічны неспакой.

Чытач, здаецца, пераканаўся: мяне зацікавіла ў паэзіі Яна Чыквіна моцная ў славянскіх літаратурах, умоўна кажучы, эсхаталагічная плынь з яе гранічнымі пытаннямі, звернутымі да быцця і культуры. Зацікавіла, бо яна ўяўляецца мне духоўнай рэшткай літаратуры як прароцтва, якой была паэзія ад біблейскіх прарокаў да Аляксандра Блока ў Расіі і Янкі Купалы ў Беларусі. І, мабыць, іх духоўных сыноў у сучаснай літаратуры.

Наогул жа Я. Чыквін валодае даволі шырокім дыяпазонам творча-мастацкай палітры: поруч з творамі дыянісійскага, трагічнага гучання ў яго паэтычных кніжках ёсць вершы "апалонаўскага" кшталту, часам нават стылізаваныя пад антычную пачуццёвую пластычнасць. Найбольш такіх маляўнічых і скульптурных кампазіцыяў сабрана ў мінскім зборніку "Светлы міг" (1989) і польска-беларускай кніжцы "Сонечная вязь" (Ольштын, 1988, у беларускім арыгінале і ў перакладзе на польскую мову). Тут таксама шмат ключавых вобразаў і матываў, паводле якіх пазнаюцца стыль і праблематыка Яна Чыквіна: "Сад мой, садок,// Душа з найлепшых душ,// Прыбяжы да мяне ў Беласток// У белай кашулі груш..." Альбо: "Зялёным агнём набрыняла трава.// Гэта радасць вясны, а мяне там няма..." Але дамінуе тут светлы міг у жыцці чалавека, калі душа яго наладжваецца ва ўнісон з быццём і нагбом п'е фарбы, гукі, краявіды найпрыгажэйшага краю ў Сярэдне-Усходняй Еўропе — Беласточчыны. Як, напрыклад, у вершы, які даў назву мінскай кніжцы:

**Трымае лес над галавой**
**вянцы,**
**Журліва-светлы**
**перадасенні міг...**
**Праз прызмы дрэў**
**бягуць ганцы**
**Салярыс грэйнага**
**яшчэ для нас дваіх,**
**На нас дваіх вось гэты**
**шчасны міг!**

Пры некаторай схільнасці Яна Чыквіна да ірацыянальных, нават эсхаталагічных праблем быцця, ён мне ўяўляецца пісьменнікам рацыянальнага складу, які ўмее вынаходзіць свае сюжэты, вобразы, метафары. Расійская крытыка называла такіх творцаў паэтамі-метафарыстамі. На пластычную заземленасць вобразнай інструментоўкі Чыквіна звярнуў увагу яго старэйшы калега з далёкай Амерыкі Масей Сяднёў у прыватным водгуку на кніжку "Светлы міг": вясна ў яго "налівае цяпло ў пасудзіну раслін" і "з напору светлай вільгаці будуецца зялёная павецьʺ. Альбо вось метафары дажджу: "пайшоў, кульгаючы, такі высокі, мокры... наплакаў у каляіны... сцежку ў сад пагорбіў і пакрыў лакам... выбраўся няцвёрдым крокам на бальшак-дарогу і сыпануў мокрыя зярняты направа і налева". Ёсць тут і літаратурныя рэмінісцэнцыі з паэзіі Блока і Багдановіча: "Ты адышла, як адыходзіць цень// На грані дня і ночы ад прадметаў.// І толькі недзе ў высі тваё імя// Звініць трывожнаю актавай нада мной..."// "Цябе няма, і ўся зямля маўчыць..."

Як быццам для адпачынку ад сур'ёзнага чытання аўтар змяшчае ў свае зборнікі лёгкія "інтэрмеды", вершы-скерца гумарыстычнага зместу, напрыклад, "Вячэрні госць", "Трывожная раніца", "Кволая дзяўчынка", "Дзяцінства", "Фліртусь".

Паводле ранейшых канонаў "сацыялагічнай" эстэтыкі, творчасць Яна Чыквіна аднеслі б да "чыстай паэзіі": у ёй, бадай што, няма альбо зусім мала твораў на сацыяльна-палітычную і патрыятычную тэму. Гэта крыху здзіўляе. Бо ранні польскі паэт-мадэрніст Ц. Норвід, які паўплываў на сучасную польскую паэзію, у тым ліку на беларускую літаратуру ў Польшчы, адлюстраваў у зашыфраваных тэкстах вызваленчы рух сваёй айчыны ў сярэдзіне X!X стагоддзя. Тут паэтычныя набыткі сярэдняга і маладзейшага пакаленняў "Белай Вежы" кантрастуюць з беларускай савецкай паэзіяй 50—80-х гадоў. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова параўнаць Чыквінаў "Неспакой" з кніжкай вершаў "Неспакой" (1961) Ніла Гілевіча. Нашыя калегі з Беласточчыны, відаць, бліжэй да сучасных нормаў еўрапейскай літаратурнай эстэтыкі, паводле якіх — паэзія — для паэзіі, а палітыка — для палітыкаў. Але ёсць тут і душэўная таямніца, якую выдаў Ян Чыквін у вершы "Паэт на чужбіне" — парафразе перадсмяротнай споведзі Максіма Багдановіча:

**Адстаю ад крылатай стаі —**
**Ужо не далячу да краю,**
**Дзе крылы мае выраcталі.**

**Пабрацімы —бел-белыя гусі**
**Ляцяць ключом спрадвечным**
**Да гнёздаў сваіх беларускіх.**

**У тым адхоне, дзе я сканаю,**
**У тым пранізлівым бляску**
**Я вельмі самотны —**
**айчыны не маю,**
**Матчынай ласкі.**

Гэта пісалася, здаецца, гадоў пяць таму назад. Апошнім часам сітуацыя з айчынай спакваля мяняецца ў лепшы бок. Створана згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына". Сёлета пасля Купалля адбыўся іх першы з'езд. Айчына прыняла, здаецца, беларусаў з блізкага і далёкага замежжа з матчынай ласкай. Дажывём да пенсіі — будзем ездзіць на роварах: паэт — у Мінск, я, ягоны крытык, — на Беласточчыну. Можа да таго часу адменяць візы. Альбо выберуць нас ганаровымі грамадзянамі: Яна — у Мінску, мяне — у Беластоку. Бо хіба ж мы здолеем спаборнічаць у гэтых паездках з новым класам незалежнай Беларусі — спекулянтамі?

Вось і я закончыў свае нататкі крытычным скерца.

**Уладзімір КОНАН.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 45.**



**Гэты здымак — ужо гісторыя. На ім Апалінарый ПУПКО (справа) на парозе свайго дома з майстрамі-ганчарамі В. КУЛІКОЎСКІМ і Ф.ЦЕЛІШЭЎСКІМ.**

**Апалінарый Фларыянавіч жыў у Івянцы. У школе выкладаў чарчэнне і маляванне, перадаючы дзецям сваю любоў да прыгожага, свае навыкі і ўменне. Вядомы ж ён на Беларусі як таленавіты рэзчык па дрэву. Багаты беларускі фальклор майстар умела ўвасабляў у сваіх кампазіцыях і фігурках, ствараючы бытавыя, напоўненыя мяккім гумарам, сюжэты. Сярод яго герояў — умелец і лірнік, ганчар і араты. Увасобіў ён у дрэве і многія літаратурныя вобразы.**

**Творы А.Пупко не раз экспанаваліся на прэстыжных выставах, прыносячы славу майстру. Яму належыць і шэраг работ эпічнага манументальнага характару, такіх, як "Маці", "Летапісец".**

**Спадчына майстра і сёння дастаўляе задавальненне ўсім, каму выпала з ёю пазнаёміцца. Сёлета грамадскасць рэспублікі адзначыла 100 гадоў з дня нараджэння А.Пупко.**

## У ГОНАР ПЕСНЯРА

# У ПРЫСТАНЬКУ РЭХА ЗАВЕ

Відаць, толькі мясцовым жыхарам дый музейцам-коласаўцам быў вядомы гэты мілы, зацішны куток Наднямоння, што непадалёку ад Коласавай Мікалаеўшчыны, хоць чулі яго назву ўсе, хто знаёмы з біяграфіяй вялікага паэта. Тут улетку 1906 года ў нелегальным настаўніцкім з'ездзе браў удзел і настаўнік Канстанцін Міцкевіч, за што сурова паплаціўся: адбыў трохгадовае турэмнае зняволенне. Цяпер, пасля ўстанаўлення мемарыяльнага знака — валуна і "надвалуння" з металічнаю плітою, — гэтая мясціна, Прыстанька, набыла годнасць музейнага аб'екта, а, значыць, сюды і наведнікі памкнуцца.

Адкрыццё знака адбылося 30 кастрычніка, у першы дзень традыцыйнага свята паэзіі "Каласавіны". Урачыстасць пачаў загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкома Анатоль Грэкаў. Словы з нагоды сказалі дырэктар Мікалаеўшчынскай школы Аркадзь Камёнка, пісьменнік Алесь Рыбак, настаўнік, пляменнік народнага паэта Сымон Белы, дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Пятрусь Макаль прачытаў верш пра гаротны родны край, а паэты Алесь Камароўскі і Я.Хвалей — вершы, прысвечаныя самой Прыстаньцы.

Хораша "аздобілі" свята народныя фальклорныя калектывы "Коласавы землякі" і "Гавязнянка".

Гучалі песні, іграла музыка. Гарэла вогнішча, карагодзілі вакол яго святкоўцы. І ўвушшу стаялі словы — канцоўка верша А.Камароўскага:

**Не зрынута столькі агрэхаў**
**Ў мітрэнзе адліг і завей...**
**У Прыстаньку новае рэха**
**На сход беларусаў заве.**

А 3 лістапада, у дзень нараджэння песняра, свята працягвалася ў Мінску. Коласаўскі музей сустракаў удзельнікаў навуковай канферэнцыі. Усе даклады і паведамленні прысвячаліся неўміручай паэме "Новая зямля", 70-годдзе якой спраўляецца сёлета. Адкрыла пасяджэнне дырэктар музея З.Камароўская. Потым слова ўзяў член-карэспандэнт АН Беларусі Міхаіл Мушынскі, які прачытаў даклад — "Новая зямля" як праява духоўнасці беларускай нацыі".

Адзін за адным выступаюць навукоўцы акадэміі і выкладчыкі ВНУ рэспублікі. І думаецца: які гэта невычэрпны твор! І ўспамінаюцца словы Алеся Адамовіча:

"Калі б патрэбна было для будучых часоў пакінуць толькі адзін твор, які б даў уяўленне аб тым, што такое беларускі народ, хіба не "Новую зямлю" назваў бы кожны з нас!.."

**Іван КУРБЕКА.**

*ПРЫСВЕЧАНА В.ЛАСТОЎСКАМУ*

# "О, КРЫЎСКАЯ ЗЯМЛЯ! О, ВОЛАТАЎ НАШЧАДКІ!"

Вось гэтыя словы В.Ластоўскага сталі своеасаблівым эпіграфам да рэспубліканскай навуковай канферэнцыі "Вацлаў Ластоўскі — выдатны дзеяч беларускага адраджэння", якая праходзіла ў канцы кастрычніка у Наваполацку і была прысвечана 110-й гадавіне з дня нараджэння згаданага вучонага, пісьменніка, грамадскага дзеяча. Канферэнцыя была падрыхтавана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Полацкім дзяржаўным універсітэтам, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Ф.Скарыны, а яе дабрадзеямі сталі Беларускі фонд культуры, Наваполацкі рэгіянальны цэнтр садзейнічання эканамічнаму развіццю і рэканструкцыі, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік, Фонд "Сорас-Беларусь", фірма "Магелан". На пленарных і секцыйных пасяджэннях, у дыскусійных выступленнях прынялі ўдзел не толькі вучоныя, даследчыкі з Мінска і іншых гарадоў Беларусі, але і госці з Санкт-Пецярбурга, Масквы, Рыгі, Вільні, Варшавы...

Пасля справаздачы кіраўнікоў секцый, прыняцця рэкамендацый адбылася паездка на радзіму Вацлава Ластоўскага — у Міёрскі раён з наведаннем Дзісны, Пагоста, былога засценка Калеснікі — котлішча роду Ластоўскіх. У Міёрскім касцёле была адслужана імша ў памяць выдатнага сына гэтае зямлі, пакутніка бальшавіцкіх рэпрэсій.

З радзімы, з аснежанай і панішчанай былой сядзібы Ластоўскіх, прывёз я дадому некалькі яблыкаў, знойдзеных пад змёрзлаю дзічкаю... У нас такую гаркоту завуць пальнюкамі...

**Вось гэты яблык**
**пальнюком завецца:**
**быць лепшым, як хацеў бы,**
**не ўдаецца.**
**Раз ты пальнюк — на полі табе быць...**
**(Мо, пальнюкоў-пакутнікаў забыць!)**
**У дзікім полі — прах іх; з ім — і суць.**
**Што ж, пальнюкам імёны не даюць.**
**Былі і семкі з правам на сям'ю**
**(а я ж — пальнюк: гняздзечка не саўю).**
**Так выціснула з нашага жытла**
**паўнацыі**
**паўдурка памяла.**
**Мне кажуць: катаў нельга пакараць.**
**Каля Крамля ім суджана ляжаць, —**
**хто агаляў уверх**
**на сто гадоў**
**зямлю маю ад сакаўных пладоў.**
**Здаецца, правалiўся б маўзалей,**
**прыняў бы дзічку скамянелы глей:**
**няхай бы птушкі — душы ўсіх ахвяр —**
**збіралі белы**
**пальнюкоў пажар.**

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

ЗЕМЛЯКІ ЎШАНОЎВАЮЦЬ ПАМЯЦЬ Міколы РАВЕНСКАГА

# ВЕРА І МУЗЫКА

2 лістапада, як і намячалася, на Дзяды, у старажытным Ігумне (ранейшая назва Чэрвеня) была адкрыта мемарыяльная дошка кампазітару Міколе Равенскаму. Падзея гэта стала магчымай, дзякуючы намаганням мясцовай інтэлігенцыі, якую падтрымалі дэпутаты Чэрвеньскага гарадскога Савета. Клопатамі дырэктара краязнаўчага музея Ганны Аўласенка каля дома, дзе з восені 1941-га да лета 1944 года жыў Мікола Равенскі, адбылася ўрачыстасць, на якую прыйшлі мясцовыя жыхары, прыехалі госці з Мінска, сабраліся ўсе тыя, хто цэніць і разумее значэнне творчасці кампазітара для беларускай культуры. Мне ж хочацца думаць, што падзея гэта здольная ўсяліць надзею ў сэрцы людзей, якія дбаюць пра нацыянальнае адраджэнне, змагаюцца за вяртанне ў наша жыццё імёнаў выдатных землякоў, незаслужана забытых, замеценых завірухамі другой сусветнай вайны. Імя Міколы Равенскага адно з іх. Кветкі, пакладзеныя да мемарыяльнай дошкі, агеньчыкі свечак нібы ачышчалі трагічную постаць ад усяго несправядлівага і наноснага, і ўспрымалася ўсё гэта як пакаянне жывых перад яго светлай памяццю. Дачка кампазітара Вольга Аляксеенка не змагла выступіць з доўгай прамовай: хваляванне перахапіла дыханне. Яна толькі нізка пакланілася людзям і падзякавала, што помняць і шануюць на гэтай зямлі яе бацьку.



Былі ў той дзень цікавыя сустрэчы з мясцовымі жыхарамі, якія ведалі і памятаюць Міколу Равенскага. І пасля іх я засталася ўсцешанай і задаволенай, што той вобраз, які склаўся ў маім уяўленні, нічога не страціў, а падаецца мне цяпер яшчэ больш трагічным і прывабным.

Калі музыку называлі "ворагам народа", выкрэслівалі яго імя з энцыклапедый, музычных зборнікаў і даведнікаў, пазбаўлялі яго творы аўтарства ці прыпісвалі яго іншым кампазітарам, найбольш ставілі М. Равенскаму ў віну гады вайны, калі ён быццам бы супрацоўнічаў з акупантамі і выехаў з імі на Захад. Але ж пасля перамогі ўсе, хто заставаўся на акупіраванай зямлі, былі "вінаватыя" перад уладамі менавіта ў тым, што засталіся і выжылі.

Напярэдадні вайны Мікола Равенскі перажыў арышт брата Антона, які так і згінуў у засценках НКВД, сам падвяргаўся нападкам, страціў работу, быў выключаны з Саюза кампазітараў, беззваротна знікла адабраная ў яго першая беларуская нацыянальная опера "Браніслава", напісаная Равенскім на лібрэта Уладзіміра Дубоўкі. У вайну ён страціў старэйшую дачку, расстраляную гітлераўцамі за ўдзел у падполлі, а з дзвюма зусім маленькімі дочкамі прыехаў у Чэрвень, бліжэй да месца, дзе нарадзіўся, і быў ім тут і за бацьку, і за маці.

Краязнавец, настаўнік па прафесіі Уладзімір Дарагуш зацікавіўся постаццю М. Равенскага, прачытаўшы пра яго ў "Голасе Радзімы". Ён знайшоў дом, у якім жыў у Чэрвені ў ваенныя гады кампазітар, а, як потым высветлілася, і сам бачыў Міколу Якаўлевіча, але дзіцячая памяць не ўтрымала нейкіх запамінальных эпізодаў. Бачыць жа ён яго павінен быў у царкве, дзе Равенскі кіраваў хорам і куды хлопчык хадзіў з бабуляй. Яна ўнуку і расказала пра новага рэгента.

— Памятаю, як восенню 41-га года мая бабуля прыйшла з царквы радасная і ўзбуджаная, — расказваў у час адкрыцця мемарыяльнай дошкі Уладзімір Дарагуш. — "Нарэшце, у нас будзе сапраўдны хор, — сказала яна, — бо цяпер ёсць каму кіраваць ім. Маем рэгента." Гэта і быў Мікола Равенскі.

І яшчэ Уладзімір Георгіевіч сказаў такое, ад чаго пахмурны лістападаўскі дзень, прадзьмуты пранізлівым восеньскім ветрам, здаўся яшчэ халаднейшым.

— Паехаў Мікола Равенскі ў Нямеччыну напрыканцы вайны. І добра зрабіў, што паехаў, бо каб застаўся ў Чэрвені, то напаткаў бы яго страшны лёс, у турму забралі б ці без суда і следства расстралялі б, як здарылася з царкоўным старастам, ціхім і добрым чалавекам. Калі горад вызвалілі нашы войскі, нейкі партызанскі інтэндант вывеў яго ў двор і расстраляў. Тое ж самае было б і з Міколам Равенскім.

У краязнаўчым музеі, куды пасля адкрыцця мемарыяльнай дошкі нас запрасілі, Уладзімір Дарагуш пазнаёміў мяне і Вольгу Мікалаеўну з Лідзіяй Задорынай. І яна ў час вайны, як і У. Дарагуш, была малой, але добра памятае Міколу Равенскага, які вучыў яе спяваць, займаўся з ёю музыкай.

— Цяпер я разумею, што ў той час Міколе Якаўлевічу было не вельмі многа гадоў, — гаварыла Лідзія Задорына, — але мне запомніўся ён як пажылы чалавек, да таго ж заўсёды ў клопатах пра малых дачок, вымушаны быў займацца кашкамі, гаршкамі, палюшкамі. Гэта быў надзвычай мяккі, інтэлігентны, добры чалавек, толькі надта замардаваны жыццём.

У той жа дзень у адной са школ Чэрвеня адбыўся канцэрт камернага мужчынскага хору "Унія" пад кіраўніцтвам Кірыла Насаева. Хор выканаў некалькі твораў духоўнай музыкі Міколы Равенскага, а таксама ўпершыню ў выкананні "Уніі" гучалі народныя беларускія песні ў апрацоўцы кампазітара.

Гучаў са сцэны і "Магутны Божа", які, чым больш яго слухаеш, тым больш ён даходзіць да свядомасці. Разумееш, што словы Н. Арсенневай, звернутыя да Бога: "Зрабі свабоднай, зрабі шчаслівай краіну нашу і наш народ", хвалявалі і кампазітара, калі пісаў да іх музыку, гучалі як закляцце, бо ён любіў сваю гаротную краіну і заўсёды шчыра жадаў ёй шчодрага ўмалоту, дабрабыту і спакою.

Госці з Мінска мелі магчымасць пазнаёміцца з маладым мастаком Генадзем Матусевічам, якому было прапанавана выканаць мемарыяльную дошку. Генадзь родам з Чэрвеня, зараз жыве і працуе ў Магілёве, але збіраецца вярнуцца дадому, каб паслужыць сваім мастацтвам роднаму гораду. Дошку ён рабіў з ахвотай і стараннем, з фантазіяй і жаданнем выказаць сутнасць, дух таго, што жывіла кампазітара, давала яму сілы выстаяць. Гэта былі вера і музыка.

— Захавалася мала здымкаў Міколы Равенскага. І толькі адзін дастаткова выразны, — дзяліўся Генадзь Матусевіч. — Я сумняваўся, ці варта рабіць на дошцы копію фатаграфіі. Імкнуўся перадаць сутнасць чалавека і кампазітара. Сёння мне сказалі, што гэта ўдалося, і я шчаслівы.

Вуліца, дзе жыў у гады вайны Мікола Равенскі і дзе на доме № 66 цяпер прымацавана мемарыяльная дошка, носіць імя чырвонага камісара Луначарскага. А чаму б не называцца ёй імем беларускага кампазітара Міколы Равенскага? Такія прапановы ўжо зроблены і, здаецца, накіраваны ў інстанцыі, якія вырашаюць гэтыя пытанні. Але ці вырашацца станоўча?!

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё мемарыяльнай дошкі М. РАВЕНСКАМУ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# ВЫСТАВА З-ЗА МОРА

Не так даўно ў Лідзе пачала працаваць карцінная галерэя. Сімвалічна, што адным з першых вернісажаў тут стала выстава твораў Яна Кузміцкага, мастака-земляка, што прыехаў з-за мора, са Швецыі. Ён прадставіў на суд лідчан арыгінальныя творы жывапісу і скульптуры, у якіх адлюстраваны чалавечыя беды і надзеі.

У час выстаўкі таленавітага творцу шчыра віталі, як прынята, афіцыйныя асобы. Прыемнай неспадзяванкай для госця з'явілася віншаванне работніцы аддзела культуры гарвыканкома Марыны Мароз, ураджэнкі роднай вёскі спадара Яна — Багданаўкі, што знаходзіцца на сумежжы Шчучынскага і Лідскага раёнаў. Потым адбылася гутарка прадстаўнікоў грамадскасці з Я.Кузміцкім. Гаварыў ён з землякамі проста, з сялянскай адкрытасцю. Прыгадаў жахі фашысцкай акупацыі і трагедыі простага чалавека, без захаплення ўспомніў пра савецкіх і польскіх партызан, якія часта амаль сілком цягнулі ў свае атрады сялянскіх хлопцаў, а самым страшным назваў у нашым жыцці войны, да якіх прыводзяць палітыканы, не шкадуючы чалавечай крыві і слёз. А яшчэ госць сказаў пра небывалае творчае натхненне, што спазнаў ён сёлета пасля доўгачаканай і радаснай сустрэчы з роднай старонкай.

Хай гэткія спатканні адбываюцца як мага часцей! Такой была думка ўдзельнікаў прыемнай сустрэчы.

**А.ЖАЛКОЎСКІ.**

# ФОНД І. ДВАРЧАНІНА

Фонд Ігнація Дварчаніна — вядомага вучонага і грамадскага дзеяча, які стаяў ля вытокаў нацыянальнага адраджэння і быў рэпрэсіраваны ў 30-я гады па лжываму абвінавачванню, заснавалі яго землякі — жыхары Дзятлава. 100-годдзе з дня нараджэння аўтара "Хрэстаматыі новай беларускай літаратуры" будзе адзначацца ў чэрвені 1995 года. Для падрыхтоўкі да юбілею ў мясцовым аддзяленні Аграпрамбанка Гродзенскім абласным аддзяленнем Беларускага фонду культуры адкрыты спецыяльны рахунак, створаны арганізацыйны камітэт. На цэнтральнай плошчы райцэнтра адкрыты бронзавы бюст Дварчаніна, на доме ў вёсцы Пагіры, дзе ён нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

## "100 ПЫТАННЯЎ І АДКАЗАЎ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ"

### ЯКІЯ БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯРЖАВЫ БЫЛІ Ў СТАРАЖЫТНАСЦІ?

Элементы дзяржаўнай арганізаванасці на Беларусі існавалі задоўга да яе пісьмовай гісторыі. З VI стагоддзя па Нараджэнні Хрыстовым на большую частку нашага краю пачынае пранікаць славянскае насельніцтва. Яго змешванне з мясцовымі балцкімі плямёнамі вяло да фармавання старабеларускага этнасу і своеасаблівай культуры, якую археолагі называюць Банцараўскай (паводле найменне гарадзішча каля вёскі Банцараўшчына пад Менскам). Ёсць шэраг сведчанняў, што нашы продкі ўжо тады мелі пэўныя формы дзяржаўнасці. Пазней, з VIII стагоддзя, з новай хваляй славянізацыі Беларусі, з фармаваннем крывіцкага, драгавіцкага і радзіміцкага плямёнавых саюзаў узнікаюць і дзяржавы. З X стагоддзя на Беларусі найбольш вядомыя — Полацкае, Смаленскае і Тураўскае княствы. Апошнія неўзабаве трапілі ў залежнасць ад Кіева. Полацкае ж княства было цалкам самастойнай старабеларускай дзяржавай з усімі адпаведнымі атрыбутамі — суверэннай уладай князя і веча, адміністрацыяй, сталіцай, войскам, грашовай сістэмай і г.д. Княства праводзіла і сваю геапалітыку, якая палягала на супрацьстаянні агрэсіі Кіева і ўласнай экспансіі ў бок Балтыйскага мора. Падначаленне Полаччыне цэлага шэрагу прыбалтыйскіх плямёнаў надавала ёй адзнакі імперыі.

### У ЯКІМ ЧАСЕ ПОЛАЦКАЕ КНЯСТВА ДАСЯГНУЛА НАЙБОЛЬШАЕ ВЕЛІЧЫ?

Часам найвышэйшага ўздыму Полацкага княства сталася XI стагоддзе, калі на чале дзяржавы быў князь Усяслаў Чарадзей (валадарыў з 1044 да 1101 года). Трывалы падмурак гэтага росквіту быў закладзены ягоным бацькам — Брачыславам, які перадаў у спадчыну сыну моцную дзяржаву, што здолела выстаяць у нялёгкім змаганні з Кіевам. Шмат высілкаў прыклаў Усяслаў, каб уладкаваць сваю Бацькаўшчыну. Імпэту князя дзівіліся сучаснікі і нашчадкі. У сваёй сталіцы — Полацку ён пабудаваў новы магутны замак, велічны Сафійскі сабор. У часе княжання Усяслава квітнелі рамёствы і гандаль.

Полацкае княства было марской дзяржавай: пад яго кантролем знаходзіліся землі ўздоўж усёй Дзвіны да Варажскага (Балтыйскага) мора. Тут паўсталі гарады Герсіка і Кукенойс (зараз на тэрыторыі Латвіі) — фарпосты Полацка на шляху да Балтыкі. Полацкая дзяржава была адным з вялікіх і магутных гаспадарстваў раннесярэднявечнай Еўропы побач з Польскім каралеўствам, Скандынаўскім і Ноўгарадскім княствамі.

Усяслава, як удалага і таленавітага ваяра, паважалі і баяліся суседзі. У славутай рыцарскай песні "Слова пра паход Ігараў" пра яго сказана: "Усяслаў-князь людзям чыніў суды, радзіў князям гарады, а сам уначы ваўком рыскаў, з Кіева паспяваў да пеўняў да Тмутараканя, Хорсу вялікаму шлях перацінаў". Нейкі час Усяслаў з волі простых людзей быў нават кіеўскім князем. Але неўзабаве пакінуў гэты пасад, каб вярнуцца ў Полацак.

Народ лічыў Чарадзея за ваўкалака-пярэваратня. Не толькі таму, што той дзіўным чынам мог схавацца ад ворага і нечакана напасці на яго (як, напрыклад, на Нямізе пад Менскам 3 сакавіка 1067 года), але і таму, што прыязна ставіўся да паганства-язычніцтва. Усяслаў будаваў хрысціянскія бажніцы, але не вынішчаў і паганскіх. Князь шукаў згоду ў веравызнаннях, а праз іх — адзінства народа і дзяржавы. Шматлікія ваенныя паходы Чарадзея на Ноўгарад, Пскоў, Смаленск і г.д. займаюць усяго 18 гадоў з яго амаль 72-гадовага жыцця. Ён прысвяціў сябе не разбурэнню, а стварэнню — умацаванню першай беларускай дзяржавы.

## АБ'ЯВА

**Спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння слаўнай дачкі беларускага народа Леанілы Чарняўскай, жонкі М. Гарэцкага. З гэтай нагоды пройдуць урачыстасці на радзіме пісьменніцы, у розных навуковых і культурна-асветных установах Мінска.**

**Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры падрыхтаваў экспазіцыю, прысвечаную жыццю і творчасці Л. Чарняўскай. На пачатку снежня тут адбудзецца вечарына "У вянок стагоддзяў". Супрацоўнікі музея гасцінна запрашаюць прыняць удзел у гэтым свяце ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй беларускай літаратуры, каму неабыякавы лёс нацыянальнага адраджэння, хто з'яўляецца прыхільнікам таленту двух юбіляраў — Леанілы і Максіма Гарэцкіх.**



СПАДЧЫНА

# СМАЛЯНЫ

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ)

### "В ИМЕНЕЧКУ СМОЛЬНЯНАХ"

Як вядома, у часы зацяжнога бескаралеўя (1572—1574) Аршанскае староства, размешчанае на мяжы з Расіяй, сталася арэнай бурнай агентурнай дзейнасці, якую разгарнуў па даручэнню сенатараў Вялікага Княства Літоўскага Філон Сямёнавіч Кміта-Чарнабыльскі. Яго змястоўныя лісты з Оршы ў Вільню ўтрымлівалі інфармацыю аб памежных справах і дзяржаўна-палітычным жыцці Маскоўскай Русі. Калі іх чытаць уважліва, то можна ўбачыць адну цікавую акалічнасць. У пасланні да віленскага ваяводы Мікалая Радзівіла Філон Кміта-Чарнабыльскі, паведамляючы аб візіце да яго адной уплывовай асобы, адзначае: "И был у мене в именечку моем Смольнянах". Не менш бянтэжыць і канчатак ліста: "Писан у Смольнянах, июня 16 дня, року 1574". Адразу паўстаюць пытанні: хіба Смаляны на той час не належалі Сангушкам? Ці не мог выпадкам шаноўны пан староста памыліцца? Адказ на пытанні акрэсліваюць звесткі з радаводу Сангушкаў: аказваецца, удава князя Рыгора Васільевіча, сына Васіля Міхайлавіча Сангушкавіча Ковельскага, узяла другі шлюб з аршанскім старостам Філонам Кмітам-Чарнабыльскім. Аднак пасля смерці княгіні Настассі адзіным уладаром Смалян застаўся яе сын Андрэй Рыгоравіч Сангушкавіч.

Аб тым, як выглядалі Смаляны ў час панавання князя Андрэя, мы можам скласці ўяўленне на падставе двух старажытных інвентароў канца XVI стагоддзя. "Инвентар списанья двора и всего именья Смольянского, места, бояр и подданых" 1593 года паведамляе, што асобна існаваў "двор Смольянский (...) острогом обведенный", на якім размяшчаліся княскае жытло, гаспадарчыя пабудовы ды студня. Знаходзіўся "двор" на беразе става і злучаўся з астатняй тэрыторыяй мастом на ланцугах. Перад "дваром" стаялі млын і царква ў імя Св. Спаса. Другая царква Св. Міколы з асобнаю побач з ёю званіцаю знаходзілася "в рынку места Смольянского". Размяшчалася места на 40 валоках зямлі, якія былі падзелены на 39 асобных пляцаў. Як паведамляе інвентар 1594 года, пры Смалянскім ставе жылі 8 лебедзяў, якіх даглядалі мясцовыя жыхары Яська ды Дзямід.

### СМАЛЯНСКІ ЗАМАК

Сыну князя Андрэя Сангушкавіча Ковельскага Сямёну наканавана было распачаць новую старонку ў гісторыі Смалян. Менавіта па яго загаду на беразе ракі Дзярноўкі быў пабудаваны мураваны замак "Белы Ковель" (або "Малы Ковель"), які ў свой час быў адным з буйных палаца-замкавых ансамбляў на Беларусі. Князь Сямён з маладых гадоў вызначаўся поспехамі ў рыцарскай справе, чым здолеў здабыць сабе вялікую славу. Апроч таго, яго цікавіла кар'ера дзяржаўнага дзеяча, у якой ён таксама дасягнуў значных вышынь. Пасля смерці бацькі апекунамі малалетняга князя Сямёна сталі славуты Леў Сапега і два яго браты. Пад кіраўніцтвам і пры падтрымцы гэтых годных мужоў князь Сямён рабіў свае першыя крокі на дзяржаўным точышчы. Яго кар'ера пачыналася з пасады аршанскага маршалка, а к 40 гадам ён ужо заняў пачэснае ў Вялікім Княстве сенатарскае крэсла віцебскага ваяводы. Першым у родзе Сангушкаў князь Сямён перайшоў ва уніяцтва (пасля чаго стаў называцца Сямёнам-Самуілам) і прымусіў усіх сваіх падданых зрабіць тое ж. Чалавек адукаваны, ён любіў людзей навукі, сам бавіўся ўзорамі прыгожага пісьменства, сабраў вялікую бібліятэку, напісаў радавод Сангушкаў. Лёс спрыяў гэтаму чалавеку, бо неаднойчы ў сваім жыцці князь меў магчымасць прыняць гвалтоўную смерць. І размова ідзе не толькі пра вайсковыя паходы ды баталіі. Так, у 1627 годзе падчас пасяджэння земскага суда ў Менску, які разглядаў спрэчку паміж Сямёнам Ковельскім і Хрыстафорам Завішам, апошні тут жа ў судовай зале выхапіў стрэльбу і нацэліў рулю ў грудзі свайму праціўніку. Аднак перш чым прагучаў стрэл, князя Сямёна паспеў захінуць сваім целам яго слуга Пётра Чалінскі, рана якога аказалася смяротнай.

Як адзначае сп. Р. Баравы, будаўніцтва замка ў Смалянах князем Сямёнам-Самуілам Сангушкам Ковельскім можна аднесці прыкладна да другога дзесяцігоддзя XVII стагоддзя. Замак каштаваў немалых грошай, затое вызначаўся вялікай прыгажосцю і зручнасцю. Узведзены з буйной цэглы і невялікіх камянёў, пафарбаваны ў белы колер, ён размяшчаўся на прамавугольнай пляцоўцы, абведзенай штучным вадаёмам. Увесь комплекс меў замкнёны, набліжаны да квадрата план, утвораны палацавымі карпусамі і 3 ці 4 вуглавымі вежамі. Інтэр'еры жылых памяшканняў былі ўпрыгожаны фрэскамі на рэлігійныя сюжэты ды белымі кафлянымі печамі з гербам "Пагоня".

Доўгі час лічылася, што замак "Белы Ковель" зруйнавалі воі Пятра I у 1708 годзе пасля бойкі са шведскім войскам. Аднак знойдзеныя ў архівах сп. М. Ткачовым інвентары Смалян 1739 і 1742 гадоў сведчаць аб тым, што замкавыя ўмацаванні ў гэты час паспяхова працягвалі сваё існаванне. Калі і з якой прычыны замак напаткала разбурэнне, да сённяшняга дня невядома. Адбылося гэта, трэба думаць, ужо к канцу XVIII стагоддзя. Мастак Юзаф Пешка, што вандраваў па Беларусі з пэндзлем і фарбамі на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў, на адной са сваіх акварэляў зафіксаваў ужо толькі "маляўнічыя руіны" замка ў Смалянах — аскалёпкі былой велічы і раскошы. "Белы Ковель" пазней не аднаўляўся, а продаж яго на цэглу ў XIX стагоддзі амаль поўнасцю знішчыў гэтую шляхетную пабудову. Да нашых дзён збераглася толькі адзіная вежа, што ганарліва ўзвышаецца на маляўнічым пагорку, спакушаючы мясцовых жыхароў на складанне інтрыгуючых апавядаў пра мясцовую даўніну.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКУ: былы дамініканскі касцёл у Смалянах. Сучасны выгляд.**



Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1618. Падпісана да друку 15. 11.1993 г.